# наша свабода

№30(117) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

21 САКАВІКА 2001 года СЕРАДА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ





Абяцанкі-цацанкі

## Віза для прадстаўніка АБСЕ

Прадстаўнік АБСЕ па пытаннях свабоды прэсы Фраймут Дувэ атрымаў магчымасць наведаць Беларусь.

Як паведаміў нам прэс-сакратар міністэрства замежных справаў Павел Латушка, учора Фраймут Дувэ атрымаў у беларускай консульскай службе ў Вене дыпламатычную візу, якая дазволіць яму наведаць нашу краіну ў час з 25 па 28 сакавіка.

Пазаўчора ж беларускі МЗС накіраваў яму ліст, у якім просіць прадстаўніка АБСЕ па свабодзе СМІ адкласці свой візіт на канец красавіка. Афіцыйная версія, чаму Ф.Дувэ пажадана прыехаць на месяц пазней, – каб працней было арганізоўваць ягоныя сустрэчы з афіцыйнымі асобамі.

П.Латушка падкрэсліў, што беларускі бок вельмі зацікаўлены ў прыездзе Ф.Дувэ, каб той аб'ектыўна ацаніў стан з мас-медыя ў нашай краіне. Аднак менавіта 25-27 сакавіка будзе вельмі цяжка наладзіць ягоныя сустрэчы з прадстаўнікамі афіцыйных уладаў. 27 сакавіка мусіць прайсці паседжанне Савета міністраў Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі, а да гэтага часу будзе ісці вельмі напружаная падрыхтоўчая праца. Таму некаторыя важныя сустрэчы могуць проста не адбыцца.

Кіраўнік кансультатыўна-назіральнай місіі АБСЕ Ханс-Георг Вік у сваёй справаздачы па Беларусі заяўляў раней, што прыезд Ф.Дувэ ў Беларусь неабходны для падтрымання высілкаў, скіраваных на стварэнне стабільных умоваў для незалежных СМІ, што знаходзяцца ў небяспецы, а таксама для забеспячэння рэгулярнага доступу да дзяржаўных электронных СМІ для ўсіх кандыдатаў і палітычных сілаў, што іх падтрымліваюць.

Учора ён пацвердзіў, што прыезд прадстаўніка АБСЕ па пытаннях свабоды СМІ чакаецца на наступным тыдні.

Дарэчы, да апошняга часу ў журналісцкім асяроддзі хадзілі чуткі, што Ф.Дувэ ў Беларусь проста не дапусцяць, выкарыстоўваючы любую нагоду для гэтага. Нават эпідэмію ящчура ў Еўропе.

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

## «Советская Белоруссия» начала писать правду. Местами

Субботний выпуск президентской газеты «Советская Белоруссия» как никогда изобиловал, на удивление, правдивыми и объективными сообщениями.

**«Современные тенденции в области госуправления диктуют децентрализацию компетенции, определенную конкуренцию, а то и приватизацию отдельных управленческих функций»**, — написала «СБ».

В этом приватизационном контексте вполне уместно выглядит и цитата из другого материала того же номера: «Когда умелый жулик занимает руководящий пост, он непременно размещает подле себя пару-тройку очевидных проходимцев — в качестве громоотводов».

И в завершение еще одно замечание президентского издания: «Для того чтобы убедиться, что у некоторых людей напрочь отсутствуют мозги, не обязательно даже на улицу выходить, достаточно просто телевизор включить...»

Зимовский отдыхает!

Агентство «Ю.С.Ньюс» (www.yusnews.com)



Фота IREX/ProMedia

Прапускны пункт «Казловічы» на беларуска-польскай мяжы. Раствор едкага натра не прапусціць з Заходняй Еўропы ящчур у нашы гарады і вёскі

# Московский звездопад на наши головы

*В последнее время на белорусскую тему начали высказываться некоторые московские звезды политики*

Несмотря на то, что в России, как принято считать, армия находится вне политики, с политическими заявлениями продолжают выступать генералы. Особенно этим отличается начальник управления международного сотрудничества министерства обороны генерал-полковник Леонид Ивашов. Своими воинственными антизападными суждениями, вверенное ему ведомство стали называть управлением международной конфронтации. Еще при Борисе Ельцине заявления злого генерала нередко вынуждены были опровергать представители высшего политического руководства России.

После прихода В.Путина в Кремль долгожитель министерства обороны (появился там еще при маршале Д.Устинове) некоторое время предпочитал помалкивать. Казалось, после того, как буквально на следующий день после бомбардировки Ирака, в Москве на высшем уровне был принят генеральный секретарь *NATO* Джордж Робертсон, публичных выступлений генерала мы уже не услышим. Не тут-то было. Сменив Виктора Илюхина, бывшего председателя комитета по безопасности Госдумы в роли разоблачителя заговоров против А.Лукашенко, 3-звездный генерал поведал белорусским телезрителям о том, что против союзной Беларуси будет применена стратегия управляемого кризиса малой интенсивности. И причем уже в ближайшее время. Естественно, по словам Л.Ивашова, авторами коварных замыслов являются США и их союзники по *NATO*. Выяснилось, что у всезнающего военачальника в голове еще масса другой информации. Например, о создании каких-то тренировочных лагерей для боевиков в соседних с Беларусью государствах и другой чуши.

Чтобы кому-то не казалась персона Л.Ивашова одиозной, к белорусской теме решили подключить другого, уже 4-звездного генерала Андрея Николаева. В нынешнем составе Госдумы он возглавляет комитет по обороне. ▶

*Окончание на стр.3*

# «Зубры»: ні дня без акцыі

Ні дня без дзеяння. Такім дэвізам можна ахарактарызаваць паводзіны руху «Зубр» за ўвесь час ягонага існавання. Штодня хлопцы і дзяўчаты з студэнцкага руху даюць інфармацыйныя повады журналістам сваімі акцыямі.

Так, на мінулых выхадных, «Зубры» наведалі некаторыя тэатры, у прыватнасці тэатр музкамедыі, оперы і балета, «Садружнасці акцёраў на Таганцы» і магілёўскі драмтэатр, дзе правялі акцыі пад агульнай назвай «Яны не ходзяць у тэатр». Адразу пасля сканчэння спектакляў у зал, дзе сядзелі гледачы, з балконаў сыпаліся ўлёткі, на якіх былі партрэты зніклых на Беларусі вядомых людзей Юрыя Захаранкі, Анатоля Красоўскага, Віктара Ганчара, Дзмітрыя Завадскага і дэпутата Андрэя Клімава, які зараз знаходзіцца ў турме, пад партрэтамі якраз і было напісана па-руску «Яны не ходзяць у тэатр».

Пасля сканчэння акцыі ў гледачоў пыталі, ці не перашкодзілі ўлёткі іхняму культурнаму адпачынку, на што чуўся адказ, што, маўляў, «не, тэма зніклых гэта важна, аб ёй трэба казаць».

У Віцебску міліцыянты тры дні пратрымалі ў пастарунку маладога чалавека па прозвішчы Гукаў, у якога пры праверцы дакументаў не знайшлі, а знайшлі налепкі з лагатыпам «Зубра» «Рукі прэч ад нашых дзяцей!» За гэта Гукава, ад якога патрабавалі прызнацца, што ён «Зубр», і сказаць «хто ў вас галоўны», не карміці доўгі час, а пасля трох сутак збілі і адпусцілі дамоў. Далейшыя падрабязнасці справы высвятляюцца.

Як вядома, за апошні тыдзень «Зубр» правёў таксама акцыю на праспекце Машэрава па тэме зніклых людзей — «публічнае графіці». Некалькі маладых людзей пасярод белага дня напісалі сем сказаў з пытаннямі «Дзе Захаранка?» і г.д.

Такім чынам, за апошні час «Зубр» зладзіў больш акцыяў, чым усе астатнія маладзёжныя арганізацыі разам узятыя.

А сёння актывісты руху будуць сустракаць свайго паплечніка Антона Цялежнікава, якога на пятнаццаць сутак пасадзілі ў спецпрыёмнік-размеркавальнік за тое, што ён выйшаў з расцяжкай да рэзідэнцыі Лукашэнкі. Пасля Антон паедзе да сябе на радзіму ў горад Барысаў.

Віктар СЕВЕРЦАЎ

## НАВІНЫ

■ **19 сакавіка гродзенская моладзь наладзіла акцыю пад назовам «Абаронім беларускае піва».** Мэта – змаганне «з засіллем у Беларусі таннага расійскага піва». Гэтае чысло шэраг маладзёжных арганізацыяў нават абвесцілі Днём беларускага піва. Наступная акцыя адбудзецца, такім чынам, 19 красавіка. На яе плануецца запрасіць таксама БПСМ.

■ **Валютны рэзерв Нацбанка і ўрада Беларусі на 1 сакавіка складае 168 мільёнаў долараў.** Рэзерв у золаце раўняецца прыкладна 4,5 тоны, але, як кажа старшыня Нацбанка П.Пракаповіч, гэтага недастаткова, бо пажадана было б мець 10 тонаў. Паводле ягоных словаў, на гэты аб'ём плануецца выйсці на працягу наступных двух гадоў.

■ **З 21 сакавіка Нацбанк зніжае стаўку рэфінансавання, і цяпер яна складзе 70% гадавых.** Разам з тым Радай дырэктараў Нацыянальнага банка прынятае рашэнне аб зніжэнні на 10% фіксаваных адсоткавых ставак па ламбардных крэдытах. На тэрмін да двух тыдняў яны будуць раўняцца 160% гадавых, на тэрмін да месяца – 170% гадавых.

■ **З наступнага навучальнага года ў шэрагу беларускіх школаў будзе ўведзены факультатыўны курс «Асновы спажывецкіх ведаў».** Ён мусіць выкладацца вучням 8-9 класа школаў Барысава, Кобрына, Маладзечна, Мінска, Мар'інай Горкі і Салігорска. Гэтае рашэнне прынятае пасля таго, як міністэрства адукацыі падтрымала ініцыятыву Беларускага таварыства абароны спажыўцоў.

■ **На прадпрыемствах Гомельскай вобласці запазычанасць па заработнай плаце складае 1,5 мільярды рублёў.** Найбольшая завінавачанасць перад гаспадаркамі аграпрамысловага комплексу. Што да тэрміна затрымкі заробкаў, то тут больш за астатніх пакутуюць вяскоўцы Лоеўскага, Нараўлянскага і Петрыкаўскага раёнаў. Кіраўнікі тутэйшых гаспадарка атрымалі дысцыплінарныя пакаранні, але грошы ад гэтага пакуль не з'явіліся.

■ **Паводле дадзеных міністэрства статыстыкі і аналізу, у студзені-лютым 2001 года аб'ём ВУП Беларусі павялічыўся на 0,6% у параўнанні з аналагічным леташнім перыядам.** У студзені-лютым 2000 года ў параўнанні са студзенем-лютым 1999 года валавы ўнутраны прадукт узрос на 7%.

## НАДВОР'Е




Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1320

## Тэлефон зноў падаражэў

У Беларусі зноў выраслі тарыфы на паслугі сувязі. Чарговае падаражэнне з 19 сакавіка (дарэчы, папярэдняе было ўсяго толькі два месяцы таму) склала да 30%.

Кошт хвіліннай размовы па кватэрным тэлефоне з абанентам у адным населеным пункце павялічыўся з 2,14 да 2,57 рубля, унутры адной вобласці ён узрос з 6 да 7,5 рубля, міжабласны — з 12 да 15 рублёў. А для прадпрыемстваў і арганізацыяў хвіліна тэлефоннай гутаркі падаражэла адпаведна з 3,24 да 3,89, з 6,8 да 8,5 і з 13,6 да 17 рублёў.

Абаненцкая плата за карыстанне тэлефонам, які ўсталяваны на пагадзінную аплату, для насельніцтва вырасла з 437 да 524, а для юрыдычных асобаў — з 692 да 830 рублёў. За тэлефон непагадзіннай аплаты насельніцтву давядзецца цяпер плаціць 842 рублі, для прадпрыемстваў і арганізацыяў — 1.588 рублёў. Электронная магнітная картка для таксафонаў, разлічаная на 120 хвілінаў, падаражэла з 1.010 да 1.212.

Кірэй МАНУЙЛА

## На Віцебшчыне — свая латарэя

Віцебскі аблвыканкам сваім рашэннем заснаваў мясцовую грашова-рэчавую латарэю «Прыдзвінне». Яе арганізатарам стала рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Беларуская латарэя». Розыгрышы плануецца праводзіць двойчы на год. Першы з іх будзе праведзены з 1 сакавіка па 20 чэрвеня. Дзеля гэтага будзе выпушчана 100 тысяч латарэйных білетаў. Сродкі, атрыманыя пры дапамозе латарэі, будуць накіроўвацца на развіццё фізкультуры і спорту Віцебшчыны.

Андрэй АЛЯКСАНДРАЎ

## «Міна» для нялюбай школы

За трубой паветраправода ў прыбіральні СШ № 37 у Брэсце школьнік выпадкова заўважыў падазроны прадмет, знешне падобны да выбуховага прыстасавання з гадзіннікам і клемамі на правадках. Выкліканыя сапёры аб'явілі аб эвакуацыі 1.200 чалавек з гэтай школы і з суседняй №14, адкуль званілі невядомыя і таксама папярэджвалі аб закладзенай міне.

І хаця ўрэшце знаходка была ўсяго адна, але група разміміравання батальёна міліцыі (з салдатаў тэрміновай службы) усур'ёз успрыняла яе як міну і ўзарвала трацілавай шашкай у пясчаным кар'еры за горадам. Да расследавання факта тэрарыстычнай пагрозы школе далучыліся міліцыя, пракуратура, КДБ. На Брэст абрынуўся шквал панікёрскіх чуткак...

І толькі на гэтым тыдні праваахоўныя органы прызналі, што баявых сапёраў надурыў 12-гадовы шкаляр. З пластыліну, дроту і сапсаванага гадзінніка ён змайстраваў муляж міны для нялюбай ім школы...

Надзея СВЯТЛІЧНАЯ

## З горада — у вёску

Сотні гараджан, якія жывуць у Віцебскай вобласці, перасяляюцца ў сельскую мясцовасць у пошуках працы. Паводле звестак абласной службы занятасці, толькі ў мінулым годзе такім чынам працаўладкаваліся 254 гарадскія сям'і.

Між тым такое «асяляньванне» ратуе ад голаду, але не ад беднасці. Праца на зямлі па-ранейшаму застаецца самай нізкааплачваемай. Так, у студзені 2001 года праца калгаснага селяніна аказалася ў 2,6 раза таннейшая за працу сярэднестатыстычнага работніка прамысловасці, у 2,8 раза таннейшая за працу ўрача і ў 4 разы таннейшая за працу работніка сістэмы крэдытавання і страхавання.

Леанід СІМАНАЎ, БелаПАН.

# Мінчукі наракаюць на транспарт і медыцыну

Больш за палову апытаных сацыёлагамі мінчукоў сярод праблемаў гарадскога жыцця найбольш злабадзённымі назвалі працу грамадскага транспарту (55%) і медыцынскае абслугоўванне (50%). Такія звесткі былі атрыманыя падчас сацыялагічнага даследавання, праведзенага ў сакавіку вучонымі Мінскага НДІ сацыяльна-эканамічных і палітычных праблемаў. Былі апытаныя 990 мінчукоў 18 гадоў і старэй, якім было прапанаванае пытанне: «Якія праблемы гарадскога жыцця вы лічыце найбольш злабадзённымі?».

45% рэспандэнтаў звярнулі ўвагу на стан навакольнага асяроддзя. Прыкметнае месца сярод праблемаў, якія непакояць мінчукоў, займаюць пытанні іх побыту. У прыватнасці, 44% апытаных звярнулі ўвагу на стан пад'ездаў у жылых дамах, 40% — на добраўладкаванне двароў і 35% — на рамонт жылога фонду. Каля трацінны жыхароў беларускай сталіцы занепакоеныя аховай грамадскага парадку (33%), станам і асвятленнасцю вуліцаў, а таксама працай ЖЭСаў (па 32%). Непакояць мінчукоў і сацыяльныя праблемы: недастатковая дапамога малазабяспечаным (27%), нізкія тэмпы будаўніцтва жылля (22%), магчымасці для баўлення вольнага часу дзецьмі і падлеткамі (16%).

Леанід ІГНАЦЬЕЎ, БелаПАН.

ТЭНДЭНЦЫІ



Фота IREX/ProMedia

Каб служыць з дубінкай і шчытом, трэба мець добрае здароўе

# Заходняя Дзвіна вытрымала

Супрацоўнікі Наваполацкай экалагічнай лабараторыі падвялі вынікі наступстваў выкіду каналізацыйных сцёкаў у Заходнюю Дзвіну. Аварыя адбылася ў Віцебску 27 лютага. Яе прычынай стаў разрыў фекальнага калектара, у выніку якога ў раку трапіла амаль 3 тысячы кубаметраў гаспадарчых сцёкаў.

Аналіз вады ў Заходняй Дзвіне паказаў, што ў раёне Наваполацка ўзровень забруджвання не перавысіў звычайных фонавых паказчыкаў. А вось у пробах вады, узятых у Віцебску, адзначаныя значныя перавышэнні межавых дазволеных канцэнтрацыяў нафтапрадуктаў (3 МДК), азотаамонійных спалучэнняў (4,8 МДК) і фенолаў (16 МДК). Акрамя таго, утрая перавышаны і паказчык хімічнага ўжывання кіслароду, што сведчыць аб наяўнасці арганічнага забруджвання.

Па словах супрацоўнікаў Наваполацкай экалагічнай інспекцыі, якія назіралі за становішчам да 8 сакавіка, Заходняя Дзвіна самастойна справілася з наступствамі выкіду дзякуючы здольнасці да самаачышчэння. Аднак ці варта надалей спадзявацца на прыродныя сілы ракі, якая да рэшты змардаваная шкоднымі выкідамі?

Андрэй АЛЯКСАНДРАЎ

## Галадоўка не дапамагла

17 сакавіка старшыня прафкама Свабоднага прафсаюза металістаў брэсцкага завода «Цвэтотрон» Сяргей Вакуленка спыніў сухую галадоўку. На крайнюю меру яго вымусіла адміністрацыя прадпрыемства. Зарэгістраваўшыся кандыдатам у дэпутаты ў палату па дамыбарах, якія прайшлі 18 сакавіка, С.Вакуленка быў пазбаўлены права праводзіць агітацыю нават на заводзе, з-за чаго і мусіў сысці ў адпачынак. Вынікі галасавання паказалі, што і сухая галадоўка не дапамагла актывісту прабіцца ў палату прадстаўнікоў: С.Вакуленка заняў трэцяе месца ў акрузе з 11,2% галасоў.

Юрась ХМЯЛЬНІЦКІ

## На Віцебшчыне мала хворых

Па стане на 1 лютага 2001 года ў Віцебскай вобласці зарэгістравана 73 ВІЧ-інфікаваныя. Па іх колькасці Віцебшчына па-ранейшаму застаецца найбольш спакойным рэгіёнам Беларусі. Аднак урачы аптымізму не маюць, бо колькасць людзей з жудасны вірусам павялічваецца штомесяц.

Паводле афіцыйнай статыстыкі, 37 чалавек з зарэгістраваных як ВІЧ-інфікаваныя заразіліся пры ін'екцыях наркатычных рэчываў. Астатнія – праз палавыя кантакты. Ад ВІЧ-інфікаваных мацярок на Віцебшчыне ўжо нарадзіліся 6 дзяцей, а двум малым ужо пастаўлены спадчынны дыягназ.

Андрэй АЛЯКСАНДРАЎ

# Далгалёў перацягвае кадры

У першую гадавіну свайго ачольвання «вертыкалі» на Берасцейшчыне Васіль Далгалёў саспеў для перацягвання на падуладную яму тэрыторыю магілёўцаў. 19 сакавіка ў Лунінцы на пазачарговай сесіі райсавета дэпутатам быў прадстаўлены пераемнік старшыні райвыканкама Аляксандр Бойка. Яму 42 гады, выпускнік Горкаўскай сельгасакадэміі, былы партфункцыянерам у Мсціслаўскім раёне, галоўным спецыялістам камітэта дзяржкантролю Магілёўскай вобласці. Апошнее месца працы – першы намеснік старшыні Чавускага райвыканкама.

Былы старшыня Лунінецкага райвыканкама Аляксандр Волчык перасунуты на пасаду загадчыка «чарнобыльскага» аддзела. І гэта на месцы ўспрымаюць як пакаранне за сацыяльныя хваляванні ў пасёлку палескіх гарняткоў Мікашэвічы, якія тут пасля наведвання гранітнага радовішча Лукашэнкам у красавіку 2000 года толькі ўзмацніліся.

Надзея СВЯТЛІЧНАЯ

# Пракаповічу рыхтуюць абструкцыю

Мінскія чыноўнікі вышэйшага рангу – Латыпаў, Корбут, Дзямчук, Пракаповіч, Тозік – размеркаваныя ў графіку для прыёму на Брэстчыне. Гэта чарговая кампанія хаджэння ў народ уваходзіць у план падрыхтоўкі да так званага Усебеларускага сходу і мае на мэце адцягнуць увагу перыферыі ад тых сацыяльна-эканамічных праблемаў, што спароджаны палітыкай цэнтра, але «душаць». Прыкладам, міністр фінансаў Мікалай Корбут вёў прыём у адным з пакояў Брэсцкага райвыканкама і выслухаў да 20 чалавек. Па большасці заяваў і просьбаў ён не змог даць нават абяцанняў, бо, як сам прызнаўся, усе грашовыя рэзервы дзяржавы вымываюцца зараз на пасяўную. У прыватнасці, «Белаграпрамбанк» атрымаў даручэнне выдаткаваць на веснавы аграл першы грашовы крэдыт у аб'ёме 5 мільярдаў рублёў. Але калі б нават уся гэтая сума была накіраваная ў паўднёвыя раёны Брэстчыны, дзе нельга ўжо не спяшацца з пасяўной, то ўсё роўна трактары будуць прастойваць з пустымі бакамі і не ўсе механізатары атрымаюць заробак яшчэ за студзень.

За грашовую пастку, у якой апынуліся не толькі гаспадарнікі, але і ўладальнікі ўласных зберажэнняў, мусіць адказваць старшыня Нацыянальнага банка Пётр Пракаповіч. У спісе папярэдняга запісу на прыём на 28 сакавіка ўжо пазначаныя больш як 100 прозвішчаў. Банкіру варта загадзя рыхтавацца да абструкцыі кліентаў банка «БелБалты», прымусовая ліквідацыя якога праблемы не вырашае, а адтэрміноўвае на няпэўны час вяртанне валютных укладаў берасцейцаў. З калейдаскапічнай хуткасцю зараз разгараецца гэтаксама жарсці вакол «Белкамбанка», які яшчэ 12 лютага Нацбанк пазбавіў ліцэнзіі на правядзенне практычна ўсіх крэдытна-фінансавых аперацыяў. Натоўпы ўкладчыкаў, якія штодня асаджаюць брэсцкі офіс «Белкамбанка», дамаўляюцца аб паходзе ў калоне на прыём да П.Пракаповіча.

Галіна БАРАВАЯ

## «Знішчажай фашызм»

З-за небяспекі затрымання супрацоўнікамі міліцыі супольная антыфашысцкая акцыя «Знішчажай фашызм», арганізаваная 18 сакавіка шэрагам маладзёжных арганізацыяў Гродна, набыла іншы фармат. Запланаваны несанкцыяваны пікет каля гарадскога Дома сувязі молодзь правяла ў выглядзе агульнай сустрэчы, дзе былі абмеркаваныя захады па барацьбе з распаўсюджваннем у горадзе фашысцкай ідэалогіі.

Да 25 сакавіка — на тэрмін пакуль праходзіць сусветны тыдзень барацьбы з расізмам — плануецца правядзенне штодзённай шырокай улётачнай акцыі «Не — фашызму і расізму!».

Павел МАЖЭЙКА, БелаПАН.

## Міліцыя затурбаваная даверам да сябе

Акцыя міністэрства ўнутраных справаў Беларусі «Ці давяраеце вы міліцыі?» пачалася 19 сакавіка ў Гродне і Гродзенскай вобласці.

Падчас мерапрыемства старшы афіцэрскі склад МУС нрявядзе апытанне-сумоўе з жыхарамі вобласці дзеля вывучэння іх меркавання аб ступені даверу да супрацоўнікаў праваахоўных органаў. Як адзначылі ў прэс-цэнтры ўпраўлення ўнутраных справаў Гродзенскага аблвыканкама, з дапамогай такой формы даследавання кіраўнікі МУС збіраюцца вызначыць слабыя месцы ў працы міліцыі вобласці.

На працягу 19 сакавіка жыхары сямі сельскіх раёнаў — Слонімскага, Ашмянскага, Мастоўскага, Шчучынскага, Навагрудскага, Воранаўскага, Ваўкавыскага — і двух раёнаў Гродна змаглі выказаць свае прэтэнзіі, скаргі і пажаданні спецыяльна ўпаўнаважаным прадстаўнікам МУС. Абмен інфармацыяй ажыццяўляецца як па тэлефоне, так і падчас асабістых сустрэчаў.

Павел МАЖЭЙКА, БелаПАН.

## «Гомельавія» аднаўляе палёты да Мінска

З 13 красавіка дзяржаўнае прадпрыемства «Гомельавія» плануе аднавіць паветраныя зносіны з Мінскам і Гроднам. Заяву аб гэтым зрабіла 19 сакавіка дырэкцыя прадпрыемства. Па словах намесніка дырэктара «Гомельавія» Мікалая Чарнякова, які курыруе лётна-тэхнічны комплекс, аднаўленне палётаў неабходнае для падтрымання працаздольнасці лётнага састава і парка самалётаў, якія апошнім часам абсалютна не былі запатрабаваныя ў Беларусі.

Рэйсы будуць ажыццяўляцца тройчы на тыдзень. Пералёт з Гомеля ў Мінск зойме 45 хвілінаў (лайнеры будуць прызямляцца ў аэрапорце «Мінск-1»), у Гродна — крыху больш. Палёты будуць ажыццяўляцца самалётам «АН-24», які мае 48 пасадачных месцаў. Тарыфы на квіткі пакуль не зацверджаныя. Аднак, як зазначыў Мікалай Чарнякоў, нават калі ў кошт білета ўвойдзе толькі кошт паліва, гэта складзе каля 15 тысяч рублёў.

Ірына ШАНЦАВА, БелаПАН.

## Беларусы не маюць зброі

19 сакавіка ў Беларусі закончыўся месячнік добраахвотнай здачы зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў, што незаконна захоўваюцца насельніцтвам. Акцыя праводзілася міністэрствам унутраных справаў і Камітэтам дзяржаўнай бяспекі ў мэтах умацавання грамадскай бяспекі і сацыяльнай стабільнасці. На працягу месяца кожны жыхар краіны, у якога знаходзяцца незаконна набытыя або выробленыя зброя, боепрыпасы і выбуховыя рэчывы, меў магчымасць добраахвотна здаць іх прадстаўнікам улады і тым самым пазбегнуць адказнасці, прадугледжанай адпаведнымі артыкуламі Крымінальнага кодэкса. Для гэтага неабходна было звярнуцца ў органы МУС або КДБ па месцы жыхарства ці пазваніць па тэлефонах даверу гэтых ведамстваў у Мінску.

Як паведамілі ў прэс-службе міністэрства ўнутраных справаў, плануецца, што вынікі акцыі будуць падведзеныя бліжэйшымі днямі і затым абнародаваныя. Пакуль ж вядома, напрыклад, што за паўмесяца з моманту пачатку акцыі жыхары Гродзенскай вобласці добраахвотна здалі ў праваахоўныя органы 11 адзінак рознай зброі і 75 боепрыпасаў.

Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.

## Пікет у Віцебску

15 сакавіка на прыпынку «Плошча Свабоды» па вуліцы Леніна ў Віцебску прайшоў пікет, дзе ягоныя ўдзельнікі трымалі аркушы паперы з надпісамі: «Дзе Віктар Ганчар ?», «Дзе Юрый Захаранка ?», «Дзе Анатоль Красоўскі?» Пікет прастаяў трыццаць хвілінаў без прэтэнзіяў з боку міліцыянтаў і плаўна перацёк у грамадскую акцыю «Дзень Канстытуцыі».



## Страйк не спатрэбіўся

Планаваны на 13 сакавіка страйк індывідуальных прадпрымальнікаў Барысава (Мінская вобласць) не спатрэбіўся. «Пярвічка» прадпрымальнікаў Свабоднага прафсаюза Беларускага здолела мірам вырашыць спрэчныя пытанні з гарадскімі ўладамі. Мясцовая «вертыкаль» вымушаная знізіць аплату арэнды гандлёвых месцаў на адным рынку горада на 20%. Зараз прадпрымальнікі вядуць перамовы з барысаўскімі ўладамі адносна працэдуры цэнаўтварэння на гандлёвыя месцы.

Юрась ХМЯЛЬНІЦКІ

## У «Зуброў» з'явіўся свой сайт

У інтэрнэце з'явіўся сайт незарэгістраванага маладзёжнага студэнцкага руху **«Зубр»**, які гучна заявіў пра сябе апошнім часам. На сайце можна пабачыць фотаздымкі і пачытаць апісанне ўсіх акцыяў «Зубра», прычым не толькі ў Мінску, але і ў рэгіёнах, пазнаёміцца з выпушчанай рухам друкаванай прадукцыяй і нават змясціць на свой працоўны стол лагатып «Зубра» скачаннем адной з дзвюх выяваў. Спасылкамі змешчаны рубрыкі «Змагайся!», «Дзейнічай!», «Супрацьляйся!» і «Думай!».

Адрас сайта ў інтэрнэце - www.zubr-belarus.com .

Аляксей ШМЯЛЁЎ

# «Незалежны погляд» на выбарах

*Па выніках назірання на давыбарах у «палату» каардынатар Грамадзянскай ініцыятывы па назіранні за выбарамі «Незалежны погляд» Алесь Бяляцкі ўжо заявіў, што «такіх памераў фальсіфікацыяў і такіх бесцырымонных паводзінаў з боку выканаўчай улады, як у час гэтых давыбараў, мы яшчэ не бачылі».*

***— Давыбары ў палату прадстаўнікоў сталіся своеасаблівым іспытам для аб'яднання наглядальнікаў «Незалежны погляд», пра стварэнне якога было абвешчана 14 сакавіка. Якія сілы былі задзейнічаныя ў назіранні і якая карціна назіралася на 13 выбарчых участках Беларусі 18 сакавіка?***

— Сапраўды, мы абвесцілі пра стварэнне «Незалежнага погляду» ў першы дзень датэрміновага галасавання на давыбарах, але само рашэнне стварыць сетку незалежнага наглядання было прынятае яшчэ на пачатку снежня, калі збіралася Асамблея няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў. У сваёй дзейнасці мы абапіраемся на арганізацыі, што ўваходзяць у Асамблею, і якія далі асноўны кантынгент наглядальнікаў. Нам удалося выставіць наглядальнікаў па ўсіх акругах: дзе па два чалавекі, дзе – па адным, але гэта там, дзе прысутнічалі наглядальнікі Кардынацыйнай рады Грыба, з тым разлікам, каб на ўчастку былі мінімум два чалавекі. Тыя маніпуляцыі, якія праводзілі ўлады, былі даволі спецыфічныя. У іх не было задачы падтасаваць вынікі выбараў. Калі б была гэтая задача, былі б іншыя маніпуляцыі – гэтая задача хутчэй за ўсё будзе на прэзідэнцкіх выбарах. Зараз асноўнай задачай было зрабіць яўку, каб выбары адбыліся. І ўжо фактычна было няважна, хто стане дэпутатам, бо ўсе самыя няўгодныя адсейваліся на этапе рэгістрацыі. Якім чынам яны зрабілі яўку? Яны скарацілі спісы выбаршчыкаў, прычым вельмі моцна. «Мор напаў на Мінск», як мы жартавалі між сабой. У Мінску спісы выбаршчыкаў у сярэднім былі скарочаныя недзе на 20%; на некаторых участках у Брэсце спісы скарочаныя на 50%.

Другі момант – адміністратыўны. Фенаменальная рэч адбылася ў Баранавічах – там выбары адбыліся яшчэ 17 сакавіка. 18 сакавіка не варта было і праводзіць выбары, бо напярэдадні больш за 50% выбаршчыкаў у Баранавічах ужо прагаласавалі. Людзей проста гвалцілі: выканкамы ціснулі на адміністрацыю прадпрыемстваў, а прадпрыемствы, у сваю чаргу, ціснулі на працоўных. Дырэктар Баранавіцкага завода аўтаматычных лініяў Ялецкі выдаў загад, паводле якога прадпісваў «усім кіраўнікам падраздзяленняў завода распрацаваць графікі датэрміновага галасавання» і «даць магчымасць усім жадаючым прагаласаваць у працоўны час». А ў Барысаве з адной жанчынай адбылася проста істэрыка. Яе, маці чатырох дзяцей, паслалі галасаваць з працы, папярэдзіўшы, што звольняць, калі не прагаласуе. Яна прыйшла на ўчастак і аказалася, што яе чамусьці не ўнеслі ў спісы... Гэта быў страшэнны наезд на выбаршчыкаў, прычым ціснулі на самых неабароненых – тых, хто непасрэдна залежаў ад дырэктараў заводаў, тых, хто жыве ў інтэрнатах, студэнтаў.

Выбары праводзілі фактычна органы выканаўчай улады: участковыя камісіі самаўхіліліся, акруговыя камісіі былі толькі для прыкрыцця. Папярэдні падлік галасавання, зборкі галасавання праз кожныя дзве гадзіны – гэта ўсё рабілася арганізацыйнымі аддзеламі выканкамаў.

***— Ці ёсць падставы сцвярджаць, што ў параўнанні з леташнімі выбарамі ўмовы правядзення давыбараў значна пагоршыліся, у тым ліку і для наглядальнікаў?***

— Для назіральнікаў былі вельмі складаныя ўмовы для працы: патрабавалі дакументы, якія выбарчым заканадаўствам увогуле не прадугледжваюцца, рабілі ўсё, каб зарэгістраваць назіральнікаў максімальна пазней. Фактычна не давалі глядзець спісы выбаршчыкаў, хаця па заканадаўстве спісы павінны былі вывесіць за 10 дзён да пачатку галасавання. Падчас галасавання было некалькі выпадкаў, калі наглядальнікаў проста выдалялі па смешных прычынах. Напрыклад, аднаго назіральніка ў Мінску выдалілі з участка толькі за тое, што ён праводзіў уласны падлік тых, хто ўдзельнічаў у галасаванні. На ўсе падобныя выпадкі мы пісалі заявы ў пракуратуру і акруговыя камісіі, але самае цікавае ў тым, што ў тым жа Брэсце і Баранавічах у суботу-нядзелю пракуратура не працавала.

Сітуацыя на давыбарах у параўнанні з восеньскімі выбарамі стала абсалютна цынічнай. Я слухаў Ярмошыну – яна хвалілася, як добра прайшлі выбары – дык хацеў бы сказаць спадарыні Ярмошынай, што ёй сорамна лічыць такія выбары сапраўднымі, што гэта непрыхаваная цынічная хлусня.

***— Аднак на прэзідэнцкіх выбарах унутраным наглядальнікам прыйдзецца яшчэ цяжэй – уся дзяржаўная машына будзе скіраваная на забеспячэнне перамогі Аляксандра Лукашэнкі. І давыбары сталіся для ўлады «генеральнай рэпетыцыяй» прэзідэнцкіх выбараў.***

— Калі выбары будуць праведзеныя па такіх стандартах, як зараз, яны адназначна не будуць прызнаныя міжнароднай супольнасцю, таму што ад такога вала парушэнняў, ад такога цынізму можа звар'яцець любы міжнародны назіральнік, бо парушэнні – проста фантастычныя. Менавіта таму апошнія месяцы асноўная крытыка рэжыму была скіраваная менавіта супраць унутраных назіральнікаў, бо ўлады вельмі не зацікаўленыя ў тым аб'ёме інфармацыі, які збіраюць унутраныя наглядальнікі. Я думаю, што непрызнанне прэзідэнцкіх выбараў не будзе нашай галоўнай задачай. Галоўнае — дамагчыся празрыстасці і аб'ектыўнасці інфармацыі. І нават калі ЦВК схлусіць, то грамадзянская ініцыятыва «Незалежны погляд» абяцае ўсім грамадзянам Беларусі, што мы дамо сапраўдныя звесткі. Таму галасаваць трэба ісці, хаця для таго, каб ведаць, як беларусы ставяцца да таго ж Лукашэнкі.

Гутарыў Юрась ДУБІНА



Фота IREX/ProMedia

# Новыя паступленні ў Палату

На прэс-канферэнцыі па выніках галасавання на давыбарах у Палату прадстаўнікоў старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына параўнала выбаршчыцкую актыўнасць 18 сакавіка з лістападаўскім рэферэндумам 1996 года. Як і тады, улады выкарысталі татальны адміністратыўны рэсурс.

Разам з тым, па словах Ярмошынай, Цэнтрвыбаркам не мае аніводнага факту фальсіфікацыяў выбараў.

Хоць вынікі давыбараў актыўна апратэстоўваюць нават самі ўдзельнікі «палатачнага» фарсу. Так, ажно 4 кандыдаты па сталічнай Коласаўскай акрузе №105 падалі ў ЦВК калектыўную скаргу, дзе аспрэчваюць вынікі галасавання. Яны вымагаюць правядзення другога тура і заяўляюць, што абвешчаная пераможцай выкладчыца Педуніверсітэта Надзея Цыркун набрала не 55% галасоў, як тое налічыла акруговая камісія, а 49% (пры гэтым не было ўлічана, як прайшло галасаванне беларусаў за мяжой, якія прапісаныя да гэтай сімбіёзнай акругі). Да таго ж скаржнікамі даводзіцца, што перамога Н.Цыркун мусіць быць наогул скасаваная, бо ў дзень галасавання яна была ў эфіры беларускага радыё.

Паводле Цэнтрвыбаркама, яўка на давыбарныя ўчасткі для галасавання склала каля 73%. Самая высокая яўка, па словах старшыні Ярмошынай, была ў баранавіцкіх акругах – больш за 80%. Менш за ўсё – у мінскіх, дзе яўка выбаршчыкаў склала, як сцвярджаецца, 62%.

Апрача згаданай ужо Н.Цыркун, ужо ў першым туры Цэнтрвыбаркам прызнаў перамогу намесніцы старшыні адміністрацыі Ленінскага раёна Мінска Г.Мазуркевіч. У астатніх 11 акругах будзе ладзіцца другі тур. Сюды ўлады правялі багата кіраўнікоў «вертыкалі», прадстаўнікоў дырэктарскага корпуса і дзяржаўных органаў, а таксама дэпутатаў мінулага складу палаты прадстаўнікоў Валерыя Аляксандрава і колішняга старшыню КДБ Уладзіміра Ягорава.

У другі тур выйшаў і адзін з сябраў беларускай Сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада). А вось старшыні гэтай партыі, які ўжо другім разам намагаўся патрапіць у палату, не пашэнціла зноў: Мікалай Статкевіч бар'ер першага тура не пераадолеў.

Кірэй МАНУЙЛА

ПРЭС-РЭЛІЗ

# Адміністрацыя гвалтуе моладзь

*Адміністрацыя Пінскай філіі недзяржаўнай вышэйшай навучальнай установы «Інстытут кіраваньня і прадпрымальніцтва» пагражае выключэньнем сябрам Задзіночаньня Беларускіх Студэнтаў.*

Падставай дзеля гэтага сталі пададзеныя ў Пінскі гарвыканкам дакументы на пастаноўку на ўлік пры гарвыканкаме Пінскай суполкі ЗБС. Сярод пададзеных папераў былі Статут РМГА «Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў», пасьведчаньне аб рэгістрацыі, выпіска з пратаколу аб пастаноўцы на ўлік суполкі пры Радзе ЗБС, а таксама сьпіс сябраў суполкі са зьвесткамі пра месца жыхарства і навучаньня. Першапачаткова супрацоўнікі выканкаму паабяцалі, што працэс пастаноўкі на ўлік суполкі зойме ня больш за тыдзень, але па заканчэньні гэтага тэрміну высьветлілася, што паперамі зацікавіліся спэц-службы.

Прайшоў яшчэ месяц, і на размову ў выканкам была выкліканая адміністрацыя Пінскай філіі Інстытуту кіраваньня і прадпрымальніцтва. Зьвесткі пра зьмест размовы ў выканкаме супярэчлівыя, але ў той жа дзень па адному да прадстаўнікоў адміністрацыі інстытуту пачалі выклікаць сябраў Пінскай суполкі ЗБС, якія былі пазначаны ў пададзеным у выканкам сьпісе.

Непрыхаванае запалохваньне, шантаж і пагрозы сыпаліся з вуснаў «інтэлігентных, адукаваных і выхаваных людзей». Гучалі патрабаваньні выйсьці з арганізацыі, падпісаць абяцаньні ніколі больш ня мець аніякіх дачыненьняў з ЗБСам, прызнацца, хто і колькі заплаціў, як вербавалі, якія даручэньні давалі, што абяцалі і г. д. Адзін з выкладчыкаў па сакрэце паведамляў пра сувязь ЗБС зь міжнароднымі небясьпечнымі структурамі і прапаноўваў уступаць у камсамольскую арганізацыю, іншы распавядаў пра ўсемагутнасьць КГБ, яшчэ адзін высьвятляў, якім чынам «завербавалі «сына намесьніка дырэктара і чаму 700 пінскіх студэнтаў падтрымліваюць ЗБС. Акрамя таго, абурэньне выклікала студэнцкая газэта, якая напярэдні выйшла пры ўдзеле сябраў пінскага ЗБС.

Адзначыліся напорам дырэктар Пінскай філіі Валеры Савінаў і намесьнік дырэктара па выхаваўчай працы Васілі Янчук.

Пасьля запалохваньня студэнтаў пачалася «апрацоўка» бацькоў. Ім нагадалі, што навучаньне ў інстытуце платнае, і што пасьля выключэньня з трэцяга курса грошай ніхто ня верне, прапанавалі «абразуміць» дзяцей і ўзяць зь іх пісьмовае абацаньне выйсьці з ЗБС.

Сёньня 19.03.2001 ціск на студэнтаў працягваецца. Старшыня Рады ЗБС Крысьціна Сідун заявіла, што аніводны сябра арганізацыі не застанецца без падтрымкі, і заклікала лідэраў моладзевага руху далучацца да кампаніі абароны пінчукоў. Рада ЗБС выступіла зь ініцыятывай зладзіць журналісцкі штурм адміністрацыі Інстытута як у Менску, так і ў Пінску.

Прэс-службы ЗБС

**ДАВЕДКА**

Пінская суполка ЗБС створана ў жніўні 2000 году. Старшыня суполкі — Максім Саханчук, студэнт 3 курсу факультэта мэнэджменту. З часу стварэньня суполка пачала рэалізацыю праграмы па стварэньні студэнцкага самакіраваньня ў Пінску, выступала за беларускае навучаньне, прапагандавала дэмакратычныя каштоўнасьці.

Недзяржаўная вышэйшая навучальная установа «Інстытут кіраваньня і прадпрымальніцтва» адчынена ў 1992 годзе. Адным з заснавальнікаў быў Беларускі прафсаюз прадпрымальнікаў «Форум». Працуе па ліцэнзіі № 10 Міністэрства адукацыі і навукі РБ ад 17.07.93, працягнутай загадам Міністэрства адукацыі РБ №529 ад 5.08.99. Рэктар — Кожар Валеры Якаўлевіч. Мае філіі ў Пінску, Бабруйску, Барысаве, Маладэчне, Сьветлагорску.

У Менску месьціцца па адрасе вул. Каліноўскага, 34 (Першамайскі раён), тэлефон сакратарыяту 263 56 33.

У Пінску — на вул.Тэхнічнай, 6; тэл. дырэктара (0165) 343010, намесьніка дырэктара 343857.

# Московский звездопад на наши головы

*Окончание. Начало на стр.1*

Он также высказал обеспокоенность по поводу политики Запада в отношении нынешней Беларуси. Однако, уверен генерал-законодатель, заключенный российско-белорусский военно-политический союз не позволит сделать с Беларусью то, что произошло с Югославией. Правда, в отличие от безапелляционных суждений П.Ивашова, бывший главный пограничник России более осторожно высказался все на ту же тему об управляемом кризисе, назвав такой сценарий маловероятным. Но при этом отметил, что не согласен, как с теми, кто исключает возможность развязывания войны в ближайшие 10 лет, так и с теми, кто ее допускает. Не часто такой «мудростью» одаривают современные российские генералы. И уж совсем удивил А.Николаев, когда стал говорить о ядерной угрозе. Почему-то в качестве примера он решил назвать Германию, где для выпускника академии Генштаба американское ядерное оружие размещается до сих пор. Генерал армии, подавшийся в депутаты, считает, что ядерное оружие должно размещаться исключительно лишь на территориях стран, обладающих им. Можно напомнить А.Николаеву, кандидатуру которого реально рассматривают в Кремле на пост нового министра обороны, что в странах NATO, согласие на размещении на их территориях иностранного ядерного оружия дают национальные парламенты. И далеко не все из них с этим соглашаются. В качестве примеров генералу можно привести Данию и Норвегию.

Похоже, говоруны об управляемых кризисах намерены втянуть в разворачивающиеся предвыборные баталии в Беларуси как можно большее количество российских генералов. Лукашенковские пропагандисты, не моргнув глазом, заверяют граждан в том, что, оказывается нынешний начальник российского Генштаба генерал армии Анатолий Квашнин и командующий ВДВ генерал-полковник Георгий Шпак были изгнаны в начале 90-х из белорусской армии из-за «этнических чисток». Мол, русские они. Что ж, видимо, двум боевым генералам придется объясниться по поводу своего «изгнания» из белорусской армии. Следует напомнить, что А.Квашнин в советские времена служил в Беларуси в прямом подчинении у Павла Козловского, одного из потенциальных кандидатов в президенты страны. А Г.Шпак рассматривался в качестве одной из кандидатур на пост первого министра обороны Беларуси. Как известно, им стал другой генерал-белорус Павел Козловский. По поводу текстов об изгнании многозвездных генералов скандал получается не слабой интенсивности.

Не прочь сыграть в белорусскую рулетку и звезда московского политического бомонда Вячеслав Никонов. Его приездам в Минск власти уделяют особое внимание. В прошлом году президент фонда «Политика», в который неизвестно кто, кроме самого внука Молотова, входит, обогатил белорусскую тему одним своим предположением. По словам московского политолога, после Косово, потенциально следующей горячей точкой в Европе может стать так называемый «новогрудский треугольник». Имеется в виду судьба Калининградской области, которая после вступления Литвы в NATO и Евросоюз, а натовской Польши — в Евросоюз, окажется отрезанной от метрополии. Актуальность Беларуси от этого только возрастет.

После нынешнего своего посещения Минска Вячеслав Никонов вдруг обнаружил, что даже ведущие российские эксперты не в курсе, что в этом году в Беларуси «проходят президентские выборы». Отсутствует белорусская проблематика и в российской прессе и телеэфире. Разве что, вынужден отметить В.Никонов, только в виде спорадических уколов в адрес Лукашенко или по поводу нелегкой судьбы Бородина. Следует в след за мыслителем отметить, что российские СМИ напрочь игнорируют и самого В.Никонова, и всех упомянутых выше генералов, с их заявлениями на белорусскую тему. Не замечают их потуги и лужковские СМИ. Видимо, прекрасно помня роль таких советников, как В.Никонов, С.Караганов и некоторых других, успешно заваливших кремлевские планы Лужкова-Примакова.

Так что суждено, видимо, президенту фонда «Политика» и другим защитникам А.Лукашенко стать звездой лишь государственного белорусского телевидения. Как известно, звезды имеют свойство и гаснуть.

Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ

# Павольны гомельскі суд

*У гэты панядзелак у Гомелі аднавіўся судовы працэс па справе выкладчыкаў Гомельскага медінстытута. Ён быў перарваны 6 сакавіка.*

Працэс у Гомелі прыцягнуў увагу грамадскасці. У судовай зале перыядычна прысутнічаюць прадстаўнікі міжнародных і беларускіх праваабарончых арганізацыяў, прэса.

Гомельскі судовы працэс вельмі цяжкі ў псіхалагічным плане — жанчыны, якія даюць паказанні, плачуць, а калі ўзгадваюць пра дзень арышту (адседзелі па некалькі месяцаў), ім становіцца кепска. У судовай зале дзяжураць доктар і медсястра.

Варта нагадаць, што Уладзімір Раўкоў знаходзіцца ў гомельскім СІЗА, а ўсе астатнія абвінавачаныя – пад падпіскай аб нявыездзе. Жонка Уладзіміра Раўкова, Наталля, настойвае на тым, што падчас папярэдняга следства ў адносінах да яе мужа ўжываліся псіхатропныя сродкі.

Наталля Раўкова, жонка зняволенага прарэктара медінстытута Уладзіміра Раўкова, падкрэсліае: «Справа не рухаецца наперад. Наш адвакат клапоціцца пра тое, каб майму мужу ўсё ж такі была аказаная медыцынская дапамога. Бо паляпшэння стану здароўя няма. На папярэднім судовым паседжанні ў мужа здарыўся гіпертанічны крыз – яму зрабілася кепска ў зале суда, ціск падняўся да 200. Паседжанне было спыненае.

Ніяк не магу забыць тое, што адбылося ў судзе 26 лютага. Гэта так жахліва... Калі мы са Шчукіным падышлі да дзвярэй у залу судовых паседжанняў, там стаяў чалавек у вайсковай форме. Шчукіна ён прапускае, а мяне затрымлівае. Я яму кажу: «Рукі прыбярыце, калі ласка!» А ён крыху разгубіўся, і так атрымалася, што Шчукін стаў паміж намі. А я ў Шчукіна пад рукой – у залу. А пасля з'явіліся міліцыянеры, якія пачалі цягнуць мяне, а я ўчапілася за касяк дзвярэй. А зусім побач сядзяць пракуроры, я ім кажу: «Спадары пракуроры, глядзіце, што робіцца!» А ў іх ніякай рэакцыі, яны нават не глядзяць у мой бок. Міліцыянеры ўхапілі мяне за рукі, было вельмі балюча (пасля ў мяне засталіся сінякі). Адзін з іх спрабаваў ударыць мяне нагой. Выцягваюць мяне, учапілася за рукаво паліто, а я з паліто выслізнула і мацней учапілася за касяк дзвярэй. Ён адарваў мяне... А я ўпала, падумала: «Няхай ён мяне цягне!» Мой муж (ён быў у зале ў клетцы) пачаў абурацца: «Што вы здзекуецеся з маёй жонкі!» Міліцыянер адказаў яму: «А ты наогул маўчы!» І адвакат крычаў: «Пакіньце жанчыну ў спакоі!» Мужа майго адразу вывелі з клеткі. Мы засталіся ў зале паседжанняў, сядзім, чакаем, паседжанне павінна пачацца ў 10:00. Час ідзе, а нікога няма, пустая зала – сядзелі адвакаты, два пракуроры, мы – і ўсё. У гэты час, напэўна, вырашалі – што з намі рабіць? Потым выйшла сакратар, паглядзела на ўсё гэта і пайшла. Праз 40 хвілінаў пачалося судовае паседжанне, з'явіўся суддзя. Сакратар зачытала, хто з'явіўся, і аб'явіла: «Раўкова і Шчукін учынілі дэбош у судовым паседжанні». Але гэта было перад паседжаннем. Суддзя хутка прагаварыў: «Раўкова прызнаная сведкай, пакіньце залу». Абвясціў перапынак. Потым, калі мы сталі на лесвіцы, да мяне падышоў ахоўнік і мне гаворыць: «Скажыце, вы будзеце яшчэ прарывацца ў залу судовых паседжанняў?» Вакол шмат людзей, стаіць прадстаўнік АБСЕ, БХК. Я адказваю: «А навошта прарывацца ў залу, дзе праходзіць адкрытае судовае разбіральніцтва?» А там ужо прыехала машына, і яны, відаць, планавалі адправіць нас са Шчукіным як парушальнікаў. Пасля ўсяго, што здарылася, я ў шоку. Я ў разгубленасці і ад інтэрв'ю са мною ў «Беларускай газеце» за 5 сакавіка. Я не гаварыла журналісту, што Наталля Фомчанка (выкладчыца медінстытута, адна з падсудных) пагражала мне фізічнай распраўай. Адбылася памылка, я сказала зусім іншае, што Фомчанка ў судзе зрабіла заяву, быццам бы я пагражала ёй... Але я нікому не пагражала. Я ведаю, што Фомчанка на судзе дае вельмі дзіўныя паказанні. З аднаго боку, адмаўляе відавочныя рэчы. Напрыклад, што яна займалася з нашай дачкой Марынай па біялогіі. І ў той жа час заяўляе, што была ў курсе таго, што мой муж перадаваў грошы рэктару. Але і асуджаць мне яе цяжка.

Падумайце, як прыніжаць чалавека трэба, каб ён з усім пагадзіўся. У 1937 годзе людзі таксама прызнаваліся, што яны шпіёны і ворагі народа. Людзей ламалі. І тут падобная сітуацыя.

Адна з жанчын, арыштаваных па гэтай справе (зараз пад падпіскай аб нявыездзе), расказвала, як ёй было ў камеры. Там была «смотрящая по камеры», якая дазваляла мыць вельмі рэдка, а сушыць трэба было на сабе, каб не развешваць рэчы – «пакладзі на сябе і сушы». Умовы ў СІЗА нечалавечыя. Асабліва для жанчын — выкладчыцаў і настаўніцаў. Яшчэ адзін прыклад па гэтай справе: жанчына трапіла ў СІЗА. Сукамерніцы размясцілі яе каля парашы. Ёй забараняюць уставаць з «чатырох кропак», кідаюць ежу на падлогу. Я не думаю, што гэта ўсё робіцца без ведама адміністрацыі».

На паседжанні 19 сакавіка апошнім з васьмі абвінавачваемых па гэтай справе быў дапытаны Юрый Бандажэўскі. Прафесар распавёў пра станаўленне медінстытута, які летась адзначыў сваё 10-годдзе. Паводле яговых словаў, інстытут мае каласальныя праблемы з выкладчыцкімі кадрамі, і таму пры ім была адкрыта аспірантура, дзе былі падрыхтаваныя 24 кандыдаты і дактары навук. Гэтыя кадры, паводле словаў рэктара, былі засяроджаныя вакол адзінай тэматыкі — уплыву інкарпараванага радыецэзія на арганізм чалавека, што дазволіла ВНУ «канкураваць з найстарэйшымі ВНУ краіны – у Мінску, Віцебску і Гродне». У той жа час інстытут вызваляўся ад тых кадраў, якія не адпавядалі патрабаванням.

«Па меры таго, як інстытут станавіўся прэстыжным, пэўным колам хацелася ўзяць ВНУ і яго рэктара пад кантроль», — заявіў Ю.Бандажэўскі. Ён лічыць, што факт узбуджэння крымінальнай справы з'яўляецца сведчаннем таго, што гэта не ўдалося.

Выказваюцца меркаванні, што судовы працэс па справе аб хабары ў Гомельскім медінстытуце можа скончыцца толькі пасля выбараў прэзідэнта.

Па матэрыялах ПЦ «Вясна» падрыхтавала **Паліна СЦЕПАНЕНКА.**



На здымку Уладзімір Раўкоў (у цэнтры ў форме) незадоўга да арышту

**ЗАМЕЖЖА**

## Чэкіст на лаве падсудных

У Літве пачаўся судовы працэс над былым супрацоўнікам органаў дзяржбяспекі СССР Пятрасам Расланасам. Былы афіцэр абвінавачваецца ў масавых забойствах мірных жыхароў. Працэс мае завочны характар, бо сам абвінавачваемы жыве пад Масквой і, натуральна, не імкнецца вяртацца на радзіму.

Як паведаміла агенцтва *Associated Press*, у панядзелак Шаўляйскі акруговы суд Літвы пачаў разгляд справы аб генацыдзе. 87-гадовы Пятрас Расланас, які займаў пасаду начальніка Цяльшайскага павятовага камісарыята дзяржаўнай бяспекі Літоўскай ССР, абвінавачваецца ў тым, што 25 чэрвеня 1941 года «наладзіў і ажыццявіў жорсткае забойства 76 мясцовых жыхароў» у Райняйскім лесе Цяльшайскага раёна.

У 1992 годзе Генеральная пракуратура Літоўскай Рэспублікі ўзбудзіла крымінальную справу супраць П.Расланаса, але той тэрмінова з'ехаў у Расію. Цяпер ён жыве ў Балашыce, што пад Масквой, і на працэс прыехаць адмовіўся.

Тым не менш, як паведаміла агенцтва «Интерфакс» са спасылкай на судовую канцылярыю, было атрыманае пацвярджэнне, што былы чэкіст атрымаў позву ў суд, а таксама абвінавачванне. Таму быў распачаты разгляд справы.

Старшыня суда Вацловас Бірбіляс патлумачыў, што, паводле літоўскіх законаў, чалавек, які абвінавачваецца ў генацыдзе, можа трапіць пад суд і без ягонага ўдзелу ў працэсе – у выпадку, калі той жыве за межамі краіны і адмаўляецца браць удзел у судовым разбіральніцтве. Таму цяпер у судзе ідзе ўжо апытанне сведкаў.

Літоўскія ўлады звярталіся да Расіі з просьбай аб выдачы П.Расланаса, які цяпер з'яўляецца грамадзянінам гэтай краіны, але атрымалі адмову. Расійскія ўлады заявілі, што паколькі грамадзянін П.Расланас знаходзіцца ўжо ў паважным узросце і мае кепскае здароўе, то выдачы ён не падлягае.

Расціслаў **ПЕРМЯКОЎ**

## Расійскіх дыпламатаў вышлюць?

Неназваныя крыніцы ў амерыканскіх спецслужбах паведамілі агенцтву *CNN*, што ў бліжэйшы час плануецца высылка ўсіх расійскіх дыпламатаў з ЗША – за дзейнасць, несумяшчальную з дыпламатычным статусам. Прасцей кажучы, за шпіянаж.

Толькі ў мінулым нумары мы паведамлялі пра «шпіёнскі скандал» у Балгарыі, калі тры расійскія дыпламаты былі абвешчаныя персонамі нон грата і адпраўленыя ў Расію, і вось цяпер – новая інфармацыя са Злучаных Штатаў.

Нагодай для такіх радыкальных захадаў, як мяркуецца, стаўся арышт 18 лютага супрацоўніка Федэральнага бюро расследаванняў Роберта Хансана – з фармулёўкай «за шпіянаж на карысць Расіі». 56-гадовы Р.Хансан 25 гадоў працаваў у контрразведцы ФБР. Паведамляецца, што 15 з іх ён перадаваў сакрэтныя звесткі для Расіі, за што атрымаў 1,4 мільёна долараў наяўнымі грашыма і дыямантамі. Цяпер яму пагражае смяротнае пакаранне або пажыццёвае зняволенне.

Некалькі дзён таму з Вашынгтона тэрмінова ад'ехаў прэс-аташэ расійскай амбасады Уладзімір Фралоў. Амерыканскія сродкі масавай інфармацыі пішуць, што менавіта ён ажыццяўляў сувязь з Р.Хансанам і быў адкліканы, каб не быць абвешчаным персонай нон грата.

Цэнтральнае разведвальнае ўпраўленне ЗША неафіцыйна паведаміла, што колькасць расійскіх дыпламатаў-шпіёнаў у Амерыцы перавысіла паказчыкі часоў «халоднай вайны». Спецслужбам ЗША стала вельмі цяжка адсочваць дзейнасць «шпіёнаў Расіі». Таму цалкам верагодна, што адміністрацыя прэзідэнта Джорджа Буша санкцыянуе высылку з краіны ўсіх расійскіх дыпламатаў.

Дарэчы, аднойчы такая аперацыя ўжо была праведзеная. Адміністрацыя Рональда Рэйгана ў 80-х гадах правяла «Аперацыю *Famish*», у выніку якой на радзіму вярнуліся больш за 100 дыпламатычных прастаўнікоў СССР, якіх абвінавачвалі ў шпіянажы.

Паводле традыцыі, патрабаванне адклікання або высылка дыпламатаў з адной краіны аўтаматычна цягне за сабой аналагічныя захады «пацярпелай» дзяржавы. Таму калі Вашынгтон пойдзе на рашучыя крокі ў дачыненні да расійскіх шпіёнаў, то яму спатрэбіцца цалкам замяняць дыпламатычных прадстаўнікоў у Маскве.

Ірына **СТАРЦАВА**

# Камень за пазухой

С приходом к власти Владимира Путина, за которым, как известно, стоит госбезопасность и военно-промышленный комплекс, Россия начала новый дрейф в сторону обострения международных отношений. На словах заявляя о дружбе и мирном сотрудничестве со всеми странами мира, Москва на самом деле ведет интенсивные военные приготовления. В частности, энергично разрабатываются и испытываются новые виды оружия, проводятся пуски ракет и учения всех родов войск, восстанавливаются связи с одиозными мировыми диктаторскими режимами, усиливается пропаганда войны и военщины, на ключевые посты в регионах России назначаются генералы и адмиралы, создаются многочисленные псевдопатриотические организации, базирующиеся на великодержавной шовинистической идее Великой России, усиливается антизападная и антиамериканская риторика, власть концентрируется в одних руках.

Одним из наиболее ярких примеров подготовки России к войне становится тотальное усиление российской шпионской и разведывательной деятельности во всем мире. Нынче россияне не ограничиваются своим тайным присутствием в странах *NATO*, но уже посягают на сокровенные тайны бывших друзей. Причем, по примеру известного крыловского героя, Кремль пытается первым крикнуть «держи вора!» в случае разоблачения его агентов. Например, буквально на днях сильно осложнились российско-болгарские отношения в связи со взаимной высылкой дипломатов. Вначале в Софии были пойманы российские представители на том, что пытались получить конфиденциальную информацию, очень интересующую Сербию. Не дождавшись официальной реакции болгар на этот эксцесс, Кремль объявил о высылке из России трех болгарских дипломатов, якобы за деятельность, несовместимую с дипломатическим статусом. Болгары немедленно ответили тем же, что выглядело уже актом возмездия.

Многие независимые наблюдатели полагают, что та свистопляска, которая началась сейчас в Украине, организована при активном участии агентов Кремля и пятой колонны из бывших российских граждан. Москва фактически чрезвычайно заинтересована в дестабилизации ситуации в Украине с тем, чтобы на волне недовольства нынешним президентом Кучмой привести к власти промосковские силы и способствовать государственному перевороту, по примеру Беларуси. Ведь не секрет, что Александра Лукашенко во время конституционного переворота 1996 года активно поддерживал Кремль. Именно тайная дипломатия Москвы, ловкий иезуитский обман, силовое и психологическое давление на депутатов Верховного Совета, личное присутствие кремлевских бонз Селезнева, Черномырдина и Строева, активная работа белорусских и российских спецслужб спасла Лукашенко от импичмента и помогла ему удержаться у власти. Именно в то время, как рассказывают, одной из влиятельных тайных фигур белорусской политики стал российский посол в Беларуси Сапрыкин, отправленный позднее на службу в Албанию. Напомню, что вскоре в Албании начались грандиозные волнения, а нынче албанцы дестабилизируют хрупкий мир в Косово, организуя провокационные нападения в Македонии, игнорируя присутствие миротворческих сил *NATO*? Нет ли здесь некой очевидной связи?

Но больше всего, безусловно, россияне интересуются секретами Соединенных Штатов. Во время президентства Билла Клинтона они пользовались доверием администрации в корыстных и неблаговидных целях, всемерно укрепляя свою агентурную сеть. Американцы считают, что число российских дипломатов, выступающих в качестве сотрудников российских спецслужб, достигло за время правления Владимира Путина уровня времен «холодной войны». По сообщениям телекомпании Си-Эн-Эн, администрация президента Буша готовится выслать из страны в массовом порядке несколько десятков российских шпионов. Не попытается ли Кремль и здесь опередить противника?

Тамаш **ПАЛЬМАЧИНСКИЙ**

## Нафты засталося на 80 гадоў



На саміце краінаў-здабыўцоў нафты, які прайшоў пад эгідай *OPEC* у канцы мінулага тыдня ў Вене, былі абнародаваныя дадзеныя пра тое, што, паводле падлікаў навукоўцаў, нафты ў свеце засталося на 80 гадоў. Таму было вырашана скараціць нафтаздабычу на 4% – гэта 1 мільён барэляў сырой нафты штодня.

Як вядома, *OPEC* (*Organization of Petrol Exporting Countries*, Арганізацыя краінаў, што экспартуюць нафту) аб'ядноўвае сёння 11 дзяржаваў, якія атрымоўваюць большасць паступленняў у бюджэт менавіта ад продажу здабытай нафты. Гэта Аб'яднаныя Арабскія Эміраты, Алжыр, Венесуэла, Інданэзія, Ірак, Іран, Катар, Кувейт, Лівія, Нігерыя і Саудаўская Аравія.

Генеральны сакратар *OPEC* Алі Радрыгес заявіў, што скарачэнне квотаў на здабычу і экспарт нафты з'яўляецца «прэвентыўным захадам, які прадпрыняты з мэтай пазбегнуць калапсу цэнаў на гэтую сыравіну ў другім паўгоддзі гэтага года».

Скарачэнне здабычы нафты мусіць паўплываць на кошты на сусветным рынку. Некаторыя аналітыкі чакаюць, што цана ўздымецца з 21 долара за барэль, як цяпер, да 27-28 долараў.

Тым часам, Міжнароднае энергетычнае агенцтва паведаміла, што сёлета попыт на нафту ва ўсім свеце павялічыцца на 110.000 барэляў штодня.

Міхась **КАРПОВІЧ**

# От диктатуры к демократии

Джин ШАРП

## Концептуальные основы освобождения

*Продолжение.*
*Начало в номере №29*

### Сдача позиций в ходе переговоров?

Отдельные лица и группы, находящиеся в оппозиции диктатуре и выступающие за переговоры, часто имеют благородные цели. Особенно, когда вооруженные столкновения с жестоким режимом продолжались годами, не достигнув решающей победы, становится понятным, что все люди любой политической ориентации хотят мира. Переговоры в особенности становятся желательными среди демократов, когда диктаторы имеют явное военное превосходство и жертвы и разрушения среди собственного народа становятся непереносимыми. В таком случае появляется сильный соблазн использовать любую другую возможность, которая способна помочь демократам достичь некоторых своих целей и при этом положить конец цепи насилия и насильственных контрмер.

Предложение «мира» путем переговоров с демократической оппозицией со стороны диктатуры, естественно, не является искренним. Насилие может быть прекращено в любой момент самими диктаторами, если только они остановят войну против собственного народа. Без всяких переговоров и по собственной инициативе они могут восстановить уважение достоинства и прав человека, освободить политических заключенных, прекратить пытки, остановить военные операции, выйти из правительства и принести свои извинения народу.

Когда диктатура сильна, но существует раздражающее сопротивление, диктаторы могут решить провести переговоры с оппозицией, чтобы заставить их сдаться под предлогом заключения «мира». Призыв к переговорам может казаться привлекательным, но в ходе переговоров может возникнуть серьезная опасность.

С другой стороны, если оппозиция исключительно сильна и представляет истинную угрозу диктатуре, диктаторы могут предложить переговоры, чтобы сохранить за собой как можно большую часть власти или богатства. В любом из этих случаев демократы не должны помогать диктаторам достичь своих целей.

Демократам необходимо остерегаться ловушек, намеренно поставленных диктаторами в ходе переговоров. Призыв к переговорам, когда ставкой являются вопросы политических свобод, может оказаться попыткой диктаторов заставить демократов мирно сдать позиции при сохранении насилия со стороны диктатуры. В такого рода конфликтах переговоры могут сыграть единственную роль в конце решительной борьбы, в ходе которой власть диктаторов уничтожена и они ищут доступа в международный аэропорт.

### Вопросы власти и справедливости в переговорах

Если данный тезис представляется слишком жестким для обсуждения темы переговоров, необходимо умерить романтическое представление о них. Требуется четкое понимание того, как проводятся переговоры.

«Переговоры» не означают, что две стороны садятся за стол и на основе равенства обсуждают и разрешают противоречия, которые вызвали конфликт между ними. Необходимо помнить о двух фактах. Во-первых, в ходе переговоров содержание возможного соглашения определяется не сравнительной справедливостью конфликтных взглядов и целей. Во-вторых, содержание возможного соглашения во многом определяется реальной силой каждой из сторон.

Необходимо учитывать несколько трудных вопросов. Что может сделать каждая из сторон позднее для достижения своих целей, если другая сторона не пойдет на соглашение за столом переговоров? Что может сделать каждая из сторон после заключения соглашения, если другая сторона нарушит свое слово и использует наличные силы для достижения своих целей, несмотря на соглашение?

Разрешение проблемы путем переговоров не достигается оценкой справедливости обсуждаемых проблем. Хотя это и может послужить предметом интенсивных обсуждений, реальные результаты переговоров возникают из оценки абсолютной и сравнительной силы сторон в переговорах. Что могут сделать демократы, чтобы их минимальные требования не были отвергнуты? Что могут сделать диктаторы, чтобы сохранить власть и нейтрализовать демократов? Другими словами, если соглашение достигается, то в основном в результате того, что каждая из сторон сравнивает свои возможности с возможностями противной стороны и определяет, к чему может привести открытая борьба.

Необходимо также уделить внимание тому, какие уступки готова сделать каждая из сторон, чтобы достичь соглашения. В успешных переговорах присутствует компромисс, взаимные уступки. Каждая из сторон получает часть того, чего добивается, и уступает часть своих требований.

Что могут уступить диктаторам продемократические силы в случаях экстремальной диктатуры? С какими целями диктаторов могут согласиться продемократические силы? Должны ли демократы оставить диктаторам (будь то политическая партия или военная клика) конституционно закрепленную постоянную роль в будущем правительстве? В чем тут заключается демократия?

Даже предположив, что переговоры проходят успешно, необходимо задаться вопросом: какого рода мир наступит? Станет жизнь лучше или хуже, чем могла бы быть в случае начала или продолжения борьбы демократами?

### «Уступчивые» диктаторы

Диктаторы могут иметь различные мотивы и цели для закрепления своего владычества: власть, положение, богатство, перестройка общества и т.д. Нельзя забывать, что ни одна из этих целей не будет достигнута, если они лишатся своего доминирующего положения. В случае переговоров диктаторы будут пытаться сохранить за собой то, к чему стремились.

Какие бы обещания ни давали диктаторы в рамках соглашения, ни в коем случае нельзя забывать, что диктаторы могут обещать что угодно в целях добиться уступок со стороны демократической оппозиции, а затем грубо нарушить эти же соглашения.

Если демократы дадут согласие прекратить сопротивление в ответ на приостановку репрессий, они могут быть сильно разочарованы. Прекращение сопротивления редко приводит к сокращению репрессий. После устранения воздействия внутренней и международной оппозиции диктаторы способны сделать угнетение и насилие еще более жестоким, чем ранее. Распад народного сопротивления часто устраняет уравновешивающую силу, которая ограничивает власть и жестокость диктатуры. В таком случае тираны могут предпринимать действия против кого угодно. «Так как тиран обладает властью ровно настолько, насколько нам не хватает силы противиться ей», — писал Кришналал Шридхарани.

Там, где вопрос ставится по фундаментальным проблемам, для изменения положения в конфликте важно сопротивление, а не переговоры. Почти во всех случаях для лишения диктаторов власти сопротивление должно продолжаться. Успех в большинстве случаев определяется не переговорами о соглашении, а компетентным использованием всех наиболее соответствующих и мощных средств сопротивления. По нашему убеждению, наиболее мощным существующим средством для борцов за свободу является политическое неповиновение, или ненасильственная борьба, о чем подробнее говорится ниже.

### Какого рода мир?

Если диктаторы и демократы ведут переговоры о мире, необходимо чрезвычайно четко мыслить, так как это чревато опасностями. Не все, кто употребляют слово «мир», добиваются мира, предполагающего свободу и справедливость. Подчинение грубому угнетению и пассивная уступка диктаторам, которые зверски обращались с сотнями тысяч людей, не является настоящим миром. Гитлер неоднократно призывал к миру, под которым он понимал подчинение его воле. Мир для диктатора часто означает ничего более, чем мир тюрьмы или могилы.

Существуют и другие опасности. В переговорах с благородными намерениями иногда путают цели переговоров или сам процесс ведения переговоров. Далее, демократические участники переговоров или иностранные эксперты по переговорам, приглашенные в помощь на переговорах, могут одним махом обеспечить диктаторам легитимность на местном и международном уровне, в которой им до сих пор было отказано из-за захвата государственной власти, нарушений прав человека и жестокости. Без законного статуса, в котором они отчаянно нуждаются, диктаторы не могут продолжать править бесконечно. Сторонники мира не должны предоставлять им такого статуса.

### Источники надежды

Как указывалось выше, лидеры оппозиции могут быть вынужденными вступить в переговоры из-за чувства безнадежности борьбы за демократию. Однако это чувство безнадежности можно изменить. Диктатура не является вечной. Люди, живущие под гретом диктатуры, не становятся слабыми, диктаторам нельзя позволять оставаться у власти бесконечно. Аристотель давно отмечал: «...Жизнь олигархии и тирании более коротка, чем у другого государственного устройства... Нигде тирания не существовала долго». Современные диктатуры также уязвимы. Их слабости можно усугубить и таким образом расшатать власть диктатора. *(Такие слабости более подробно рассматриваются в главе 4).*

Современная история выявляет уязвимость диктатур и показывает, что они могут пасть в сравнительно короткий срок: в то время как десять лет, с 1980 по 1990 гг., понадобилось для свержения коммунистической диктатуры в Польше, в Восточной Германии и Чехословакии в 1989 г. это произошло в течение считанных недель. В Сальвадоре и Гватемале в 1944 г. понадобилось примерно две недели борьбы в каждой из стран, чтобы покончить с прочно укоренившимися жестокими военными диктаторами. Мощный милитаризованный режим шаха Ирана был подорван в течение нескольких месяцев. Диктатор Маркос на Филиппинах в 1986 был свергнут народной властью в течение нескольких недель, а правительство США быстро перестало поддерживать президента Маркоса, когда мощь оппозиции стала очевидной. Попытка переворота в Советском Союзе сторонниками старого режима в августе 1991 г. с помощью политического неповиновения была заблокирована в течение нескольких дней. Впоследствии многие из народов, долгие годы находившихся под его властью, вернули себе независимость в течение дней, недель и месяцев.

Старое мнение, что силовые действия всегда срабатывают быстро, в то время как ненасильственные средства требуют значительного времени, явно перестало быть справедливым. Хотя может потребоваться немало времени, чтобы изменить глубинную ситуацию и общество, сама борьба против диктатуры с помощью ненасильственных методов иногда протекает сравнительно быстро.

Переговоры не являются единственной альтернативой продолжительной войне на уничтожение, с одной стороны, и капитуляцией, с другой. Приведенные здесь примеры, а также примеры из главы 1, показывают, что существует еще одна возможность для тех, кто добивается мира и свободы: политическое неповиновение.

### 3. Откуда берется сила?

Добиться свободы мирным путем, конечно, не простая задача. Она требует большого стратегического умения, организации и планирования. Что важнее всего, она требует силы. Демократы не могут надеяться свергнуть диктатуру и добиться политической свободы без способности эффективно применить собственную силу.

Как это можно осуществить? Какую силу может мобилизовать демократическая оппозиция, чтобы она оказалась достаточной для разрушения диктатуры и ее широкой военной и полицейской системы? Ответ заключается в часто игнорируемом понимании политической силы. Изучить ее сущность не так трудно. Некоторые основные понятия довольно просты.



Переговоры. Всем известно, какой они имели конец

### Сказка о «повелителе обезьян»

Притча Лю Джи, китайского сказителя четырнадцатого века, например, весьма четко характеризует забытое понимание политической власти:

«В феодальном государстве Чу жил старик, который держал в качестве прислуги обезьян. Население Чу называло его «Джи гонг» (повелитель обезьян).

Каждое утро старик собирал обезьян в своем дворе и приказывал старейшей обезьяне вести остальных в горы собирать фрукты с деревьев и кустов. По правилу, каждая обезьяна должна была отдавать одну десятую собранного старику. Тех, кто не делал этого, безжалостно пороли. Все обезьяны жестоко страдали, но не решались жаловаться.

Однажды маленькая обезьянка спросила остальных: «Сажал ли старик эти фруктовые деревья и кустарники?» Остальные ответили: «Нет, они сами выросли». Тогда маленькая обезьяна опять спросила: «Разве мы не можем собирать фрукты без разрешения старика?» Остальные ответили: «Да, можем». Маленькая обезьяна продолжала: «Тогда, почему мы должны зависеть от старика, почему мы все должны служить ему?»

Еще не кончила говорить маленькая обезьяна, как все обезьяны внезапно поняли и пробудились.

Той же ночью, увидев, что старик уснул, обезьяны разрушили барьеры, за которыми их держали, и полностью разрушили частокол. Они также забрали фрукты, которые старик держал в хранилище, унесли их в лес и больше не возвращались. Вскоре после этого старик умер от голода».

Ю-ли-зи говорил: «Некоторые правят своими народами с помощью трюков, а не справедливых принципов. Разве они не похожи на повелителя обезьян? Они не подозревают о своей глупости. Как только их народ образумится, их трюки больше не срабатывают».

### Необходимые источники политической власти

Принцип прост. Диктаторы нуждаются в помощи людей, которыми они правят, без этого они не в состоянии обеспечить и сохранить источники политической власти. Такие источники политической власти включают:

— Авторитет, уверенность людей, что власть является законной и что их моральный долг подчиняться ей;

— Человеческие ресурсы, число и значение лиц и групп, которые подчиняются, сотрудничают или предоставляют помощь правителям;

— Умения и знания, необходимые для режима, чтобы выполнять конкретные действия и предоставляемые сотрудничающими лицами и группами;

— Нематериальные факторы, психологические и идеологические факторы, заставляющие людей подчиняться и оказывать помощь правителям;

— Материальные ресурсы, степень контроля или доступа правителей к богатству, природные ресурсы, финансовые ресурсы, экономическая система, а также средства связи и транспорта;

— Санкции, наказания, грозящие или применяемые против непослушных или отказывающихся сотрудничать, чтобы заставить их подчиниться и сотрудничать, необходимые для существования режима и проведения его политики.

Все данные источники, однако, зависят от принятия режима, от подчинения и послушания населения, от сотрудничества многочисленных людей и многих институтов общества. Их присутствие не может быть гарантировано.

Полное сотрудничество, послушание и поддержка увеличивают число необходимых источников силы и, соответственно, расширяют возможности власти любого правительства.

С другой стороны, с сокращением сотрудничества с агрессорами и диктаторами со стороны народа и институтов может истощить источники силы, от которых зависят все правители. Без таких источников власть правителей ослабляется и в конечном итоге растворяется.

Естественно, диктаторы чувствительны к действиям и идеям, которые угрожают их возможностям поступать, как им хочется. Поэтому диктаторы предпочитают угрожать и наказывать тех, кто не подчиняется, бастует или отказывается сотрудничать. Однако это еще не все. Репрессии, даже жестокость, не всегда обеспечивают возврат к необходимому уровню подчинения и сотрудничества, позволяющему режиму функционировать.

Если, несмотря на репрессии, источники силы могут быть ослаблены или перекрыты на достаточное время, первоначальным результатом для диктатуры станут неуверенность и замешательство.

*Продолжение на стр.7*

# Абяцаюць 100, хоць мінімум — 230

Надта не люблю палітыку і тых, хто ёй займаецца. Лічу вартым павагі толькі зробленае паводле дакладнага разліку. Хаця сам з-за гэтай клятай палітыкі не ўсё здолеў разлічыць. Толькі выслужыў ваенную пенсію, а тут СССР кончыўся. З тым і вярнуўся на Бацькаўшчыну.

Дзякуй Богу, здароўе добрае. Жыву, працую электрыкам на дачах. Часам газеты ў дачнікаў бяру. Чытаю, ды, па звычцы да падлікаў, падлічваю.

І думаю сам сабе. Колькі можна дурыць людзей абяцанкамі: «рэферэндум», «новая Коституция», «интеграция». Вось зараз, зараз, зробім яшчэ гэта — і шчасця з багаццем будзе, як у дурня махоркі.

Сцяжочкі мяняюць, паперкі падпісваюць, разлічваюць, што будзе праз 10 гадоў, а пра сёння і заўтра маўчаць, каб людзей не злаваць. Народнага прэзідэнта хуценька аддзялілі не толькі ад народа, але і ад інфармацыі і маніпулююць ім. Чаго вартая толькі гісторыя са 100 доларамі. Хоць забі мяне, не паверу, што чалавек, які дзесяць гадоў таму жыў у вёсцы, мог такое ляпнуць.

Праблема ж не ў доларах. Няўжо ён нават «Советскую Белоруссию» не чытае. Вось у нумары за 15 сакавіка напісана, што калгасам не хапае **трыльёна** рублёў на нармалёвую пасяўную. Азотнымі і фосфарнымі ўгнаеннямі яны забяспечаныя на 15-20%. На які плён можна пры тым разлічваць. Што мы восенню на тыя сто долараў купім?

Каб быць зразумелым, дазволю сабе паразважаць. Рэальныя грашовыя прыбыткі насельніцтва моцна залежаць ад заработнай платы. Яе падвышэнне закранае дабрабыт 75% грамадзянаў.

У той жа час рост дабрабыту немагчымы, калі ягоныя тэмпы ніжэйшыя за тэмпы росту спажывецкіх цэнаў. Такім чынам, узровень жыцця павышаецца, калі заработная плата настолькі істотна ўплывае на рост прыбыткаў насельніцтва, што тэмп гэтага росту апярэджвае тэмп росту цэнаў.

Вось тады народ робіцца багацейшы, купляе больш тавараў, а калі спрыяльныя ўмовы захоўваюцца досыць доўга, то пачынае адкладваць грошы.

Калі ўзяць кошты 1994 года, то яны па намінале раслі вельмі хутка. Але наша зарплата заробкі таксама не стаялі на месцы. Паводле афіцыйных звестак, рэальныя грашовыя прыбыткі насельніцтва з таго часу выраслі ў 1,6 раза. Гэта значыць, што яны абагналі рост спажывецкіх коштаў і павінны складаць па маіх разліках 230 долараў на месяц на сям'ю.

Калі хто меў долары ў 1991 годзе, няхай згадае, што можна было набыць у той час за 100, і ўбачыць, што лічба 230 зусім не выпадковая. Нам абяцаюць замест гэтага сярэднюю зарплату – 100 долараў. Гэта значыць на сярэднюю сям'ю будзе недзе 150 на месяц. Насамрэч, і кожнаму гэта відаць, адбудзецца расслаенне грамадства і паніжэнне жыццёвага ўзроўню вялізных масаў насельніцтва.

Прашу, калі я памыляюся, каб вядомыя эканамісты патлумачылі, дзе памыляюся я, а дзе прэзідэнт, і паказалі сапраўдныя лічбы, бо ў людзей да тых лічбаў малы доступ.

Трэба, каб мы ўбачылі сапраўдныя разлікі патрэбнага заробку і спосабы дасягнення гэтай мэты.

Адрыян КАЎТАЧ




# Інвентарызацыя пітнога водазабеспячэння

На працягу 2001-2002 гадоў у Беларусі павінны быць праведзеныя інвентарызацыя і пашпартызацыя свідравінаў пітнога водазабеспячэння глыбінёй больш за 20 метраў. Праводзіць гэтыя мерапрыемствы будуць юрыдычныя асобы незалежна ад формаў уласнасці, а таксама індывідуальныя прадпрымальнікі па стандартах, устаноўленых міністэрствам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.

Неабходнасць інвентарызацыі выкліканая тым, што ў краіне страчаны кантроль за колькасцю артэзіянскіх свідравінаў. Згодна з дзеючым парадкам, свідравіны, прабураныя вытворчымі аб'яднаннямі «Прамбурвод», «Белгеалогія» і іншымі арганізацыямі, якія атрымалі адпаведныя ліцэнзіі, перадаюцца затым водакарыстальнікам. Пры гэтым кантроль за якасцю пітной вады ажыццяўляе міністэрства аховы здароўя, а ўлік свідравінаў праводзіць ВА «Белгеалогія» мінпрыроды. Аднак з-за ведамаснай блытаніны праблема выпала з поля зроку спецыялістаў. Гэта ў першую чаргу тычыцца аб'ектаў пітнога водазабеспячэння, якія знаходзяцца ў распараджэнні калгасаў.

Паводле звестак мінпрыроды, сёння ў краіне дзейнічаюць прыкладна 6 тысяч артэзіянскіх свідравінаў пітнога водазабеспячэння, з іх каля паўтары тысячы — няўлічаныя. Асноўная маса водазабору для пітнога водазабеспячэння праводзіцца з падземных гарызонтаў. Так, з 2 мільярдаў кубаметраў штогод выкарыстоўваемай пітной вады 1,2 мільярда здабываецца з артэзіянскіх свідравінаў і толькі 0,8 — з паверхневых крыніцаў. Сярод буйных гарадоў краіны Полацк, Гродна, Гомель і часткова Мінск выкарыстоўваюць у пітным водазабеспячэнні паверхневыя крыніцы.

Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.

# Нацбанк завіхаецца над расійскім рублём

Нацыянальны банк Беларусі распрацаваў і накіраваў расійскаму боку сумесную праграму захадаў па рэалізацыі Пагаднення аб увядзенні адзінай грашовай адзінкі і стварэнні адзінага эмісійнага цэнтра. Пра гэта 19 сакавіка на прэс-канферэнцыі ў Мінску паведаміў старшыня праўлення Нацыянальнага банка Беларусі Пётр Пракаповіч.

Паводле ягоных словаў, гэтая праграма павінна быць прынятая на працягу трох месяцаў пасля ратыфікацыі пагаднення парламентамі дзвюх дзяржаваў. Кіраўнік Нацбанка адзначыў, што ўсе свае абавязальніцтвы, узятыя пры падпісанні гэтага пагаднення, беларускі бок выканаў у поўным аб'ёме.

На думку Пракаповіча, вышэйназванае пагадненне не супярэчыць беларускай Канстытуцыі, паколькі, па-першае, пытанне аб адзіным эмісійным цэнтры яшчэ не вырашанае. Цэнтрабанк Расіі, паводле яго словаў, не можа быць адзіным эмісійным цэнтрам, паколькі гэта супярэчыць саюзнай дамове. Па-другое, зараз гаворыцца толькі пра магчымасць увядзення з 1 студзеня 2005 года на тэрыторыі Беларусі расійскага рубля з улікам выканання да гэтага моманту шэрагу захадаў. Само пытанне аб увядзенні будзе прымацца асобным пагадненнем. Таму, на думку кіраўніка Нацбанка, сёння аб парушэнні Канстытуцыі або нейкіх іншых законаў рэспублікі размова не ідзе.

У пытанні адзінага эмісійнага цэнтра Нацбанк Беларусі па-ранейшаму прытрымліваецца пазіцыі, што ўсё павінна быць у адпаведнасці з саюзнай дамовай, дзе зафіксаваныя роўныя правы дзвюх дзяржаваў, у тым ліку ў адносінах да адзінага эмісійнага цэнтра.

Аляксей АРЭШКА, БелаПАН.

ЭКСПРЭС

# Прогнозы, долги, расчеты

### Международная организация по сахару прогнозирует падение цен

Международная организация по сахару (ISO) считает, что цены на сахар-сырец к концу 2001 года упадут до 7 центов за фунт с 10 центов в настоящее время. Это связано с улучшением перспектив урожая сахарного тростника в Бразилии, в результате чего производство сахара в стране в 2000/01 г. может увеличиться на 10%. Помимо бразильского фактора, давление на цены окажет и ожидаемый рост производства сахара в Австралии и Таиланде.

### Швейцарцы отказались вступать в ЕС

77% швейцарцев в ходе референдума высказались против сделанного предложения правительству начать прямые переговоры о членстве в Европейском Союзе. В некоторых немецкоговорящих кантонах страны – традиционно наиболее скептически относящихся к идее вступления в Евросоюз – количество голосов «против» достигло 85%. Даже в лояльных к ЕС франкоговорящих кантонах, таких как Женева, более половины граждан проголосовали против этого предложения.

### Европейские компании пока не готовы к евро

Как заявил комиссар ЕС по вопросам экономики и финансов Педро Сольбес, малые и средние предприятия стран Евросоюза не достаточно готовы к введению общеевропейской валюты евро, которое окончательно произойдет меньше, чем через 10 месяцев, сообщает РИА «Новости». По словам Сольбеса, не все компании в странах ЕС, входящих в валютный союз, осознают необходимость серьезной и тщательной подготовки к новой европейской валюте. Европейская комиссия провела в январе исследования, согласно которым только 12% всех малых и средних предприятий стран ЕС начали использовать в своих финансовых документах евро и только 11% осуществляют все платежи в евро. Остальные фирмы в своих операциях предпочитают иметь дело с национальной валютой и долларом США.

### Индекс потребительского доверия в США упал до самого низкого за последние 4,5 года уровня

Индекс потребительского доверия в США к весне снизился до самой низкой за последние 4,5 года отметки – 106,6 пунктов. Еще месяц назад этот показатель составлял 115,7 пункта. Эксперты, принимавшие во внимание общую негативную тенденцию в экономике США, все же не могли предвидеть столь сильного падения. Как отмечают специалисты, катастрофическое, на первый взгляд, падение индекса потребительского доверия может и не отражать настроений нации. При этом, фондовый рынок получит понижение учетной ставки, инициированное снижением индекса, что будет способствовать улучшению экономической ситуации в стране.

Андрей КАРПОВІЧ

# Канкурэнтам — міліцэйскія кардоны

У складанай сітуацыі нечаканна апынулася большасць хлебабулачных вырабаў у Гарадоцкім раёне Віцебскай вобласці. Выпечка тут хлеба паменшылася на 30%.

Прычынай гэтага стаў гандаль у вёсках раёна прыватнымі асобамі расійскім хлебам. З Вялікіх Лук і Невеля на асабістых легкавых аўтамабілях яны прывозяць больш танны ўпакаваны ў цэлафан хлеб, а таксама рыбу, муку, алей. Займаюцца гэтымі пастаўкамі, у асноўным, беларусы, якія раней вазілі ў Расію малочныя прадукты. Сельскія жыхары ведаюць дзень і час прыезду прыватных гандляроў і заўсёды чакаюць іх. І хаця ў пераліку на вагу цана расійскага хлеба нават большая, чым айчынная, ніхто такімі разлікамі не займаецца. Б асартымент значна багацейшы: калі раённы гандаль пастаўляў у вёскі адно найменне прадукцыі, то прыватнікі прывозяць у сярэднім па тры віды чорнага і белага хлеба.

Спробы Гарадоцкага райспажывсаюза спыніць пастаўку расійскага хлеба з дапамогай санкцыяў падатковай інспекцыі, міліцыі і санэпідэмстанцыі пакуль не маюць поспеху.

Ірына МАРЫСКІНА

# Бриджит Бардо и дикие псы Бухареста

Андрей КОРНЕА,
ведущий политический комментатор Румынии

*Возможно, только самому великому из наших писателей, Евгению Ионеско, удалось бы достоверно изложить эту историю на бумаге. Гениальность Ионеско заключалась в способности описать мир, в котором торжествует абсурд. Представьте себе сцену: Бухарест, маленький Париж, город, в котором проживает три миллиона человек, город широких бульваров и вилл, превратился сейчас в город, находящийся наполовину в руинах. Свирепствует бедность, дома сирот переполнены брошенными детьми, по улицам бродят бесчисленные стаи одичавших собак.*

Все это практически не вызывает никакого интереса на Западе. Кажется, что румынские политики столь же безразлично относятся к происходящему, последние десять лет они потратили на бесконечные битвы, в то время как наши посткоммунистические соседи по-новому переделали свои общества и подготовили себя к вступлению в Европейский Союз.

И вот мэр Бухареста, Трайан Башеску, предлагает план по контролю над бродячими собаками: правительство города будет усыплять любую собаку без хозяина. Неожиданно вспыхнул интерес Запада. Конечно, не для того, чтобы нам помочь — по крайней мере, не для того, чтобы помочь городу, который сдерживает армии диких собак, так что время от времени город производит впечатление города привидений из ковбойского кинофильма Серджио Леоне. Нет, Бриджит Бордо, а еще Жерард Депардье и прочие знаменитости летят в Бухарест для того, чтобы защитить бездомных собак.

Я подозреваю, что наша действительность может бросить вызов даже чувству абсурда Ионеско. Бриджит Бордо прибыла в Бухарест не для того, чтобы напомнить мужчинам о своем обаянии, а для предотвращения того, что она назвала «собачьим геноцидом». И все же, несмотря на резкую риторику, когда мисс Бордо встретилась с мэром Башеску, они на прощание поцеловались. «Я ждал этого тридцать лет», — сказал мэр, залившись румянцем. Стремясь не устраивать дискриминацию между различными партиями, мисс Бордо позднее поцеловала президента, Иона Илиеску. После всеобщего признания ее известности она уехала, оставляя бездомных собак и наше разбитое общество их собственной судьбе.

Бездомные собаки Бухареста – ни что иное, как вопиющее наследие коммунизма, как и многие наполовину построенные и сейчас заброшенные многоэтажки, разбросанные по городу и по всей стране. Несколько десятилетий назад в Бухаресте было много домиков с внутренними двориками и небольшими садами. Люди держали дома сторожевых собак для охраны своей собственности. Однако, в 1970-80-х годах большинство этих домов было принудительно снесено Чаушеску. Диктатор хотел, чтобы все жили в социалистических квартирах. Поскольку десятки тысяч людей были перемещены в крошечные стандартные квартирки, многие собаки оказались бездомными.

С 1990 года удачливые мэры обещали решить проблему этих сотен тысяч одичавших псов. Но существовали и более важные проблемы — обеспечение жильем и уличная преступность.

Мэр Башеску хочет стать следующим лидером Демократической партии (в настоящее время возглавляемой бывшим премьер-министром Петре Романом), также ходят слухи, что он собирается баллотироваться в президенты на выборах в 2004 году.

Посему мэр пообещал, что все уличные собаки будут отловлены и подвергнуты изоляции. Старые и больные собаки будут умерщвлены посредством эвтаназии, остальные стерилизованы. В то же время к людям обратятся с просьбой взять к себе столько собак, сколько кто может. Тех собак, которым не повезет с хозяином, ждет судьба старых и больных.

Еще до приезда Бордо демонстранты, протестовавшие против этого плана, осадили Сити Холл. Защитник прав человека, Габриэль Андреессу, сравнил приближающуюся судьбу уличных собак с Холокастом и Гулагом. Ведущий журналист Кристиан Тудор Попеску упрекнул защитников прав животных за их моральный релятивизм и нечувствительность к человеческим страданиям.


Бриджит Бардо обнимает мэра Бухареста

Ионеско не был моралистом, но даже он не оспорил бы один моральный вывод, который должен быть сделан из этой истории: когда социалисты избегают принятия необходимых мер, дела только ухудшаются. Ведь как уличные собаки, которые размножались в течение многих лет в Бухаресте, так же увеличивались нерешенные проблемы Румынии. Многочисленные социальные проблемы требуют вовлеченности всего общества, а не только резолюции сверху.

Конечно, нельзя «взять к себе» заброшенные фабрики или массы безработных людей, как можно взять бездомных собак. И, тем не менее, общество должно принять на себя это бремя.

Я сомневаюсь, что знаменитости типа мисс Бордо, когда-нибудь осознают абсурдность своих приоритетов — приезжать в страну, в которой миллионы людей живут в страшных условиях и отчаянии, и демонстрировать озабоченность судьбой диких собак.

© Project Syndicate, март, 2001

# Жыве «Жывое слова»

*24 сакавіка народны літаратурны тэатр чытальнікаў «Жывое слова» святкуе 35-гадовы юбілей*


Фота Ул. ШЛАПАКА

Тэатр быў заснаваны ў Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка і тут працягвае сваю плённую працу. Запрошаны ў 1966 годзе як выкладчык выразнага чытання ў гэтую ВНУ актор Купалаўскага тэатра Андрэй Каляда напачатку ўзначаліў літаратурны гурток, які неўзабаве набыў рысы тэатра з больш-менш сталай акторскай трупай. Праз чвэрць стагоддзя Каляда перадаў ачольванне тэатра аднаму з яго ўдзельнікаў — Юрасю Чарэнку. Тэатр не засяроджваецца выключна на пастаноўках спектакляў, штогод ладзіць разнастайныя канцэртныя праграмы: найцікавейшыя яго праекты—Атрасіны (чытанне сваіх твораў напрыканцы лістапада—падвядзенне творчых вынікаў за год) і Клуб творчых дыялогаў з удзелам вядомых людзей.

Нашая размова пра «Жывое слова» пойдзе з цяперашнім яго кіраўніком Юрыем Чарэнкам.

***— Дзесяць гадоў таму гонар кіраўніка тэатра выпаў вам. Якімі якасцямі павінен валодаць кіраўнік і на колькі прыступак ён мусіць быць вышэй за актораў?***

— На чарговым юбілеі — гэта было 25-годдзе тэатра — Андрэй Каляда назваў мяне і маю жонку Алену новымі кіраўнікамі тэатра. Узнікла ўсведамленне велізарнай адказнасці перад тымі, хто быў у тэатры: многія з іх прыйшлі ў калектыў у 1981 годзе разам са мной.

Я не люблю выстройваць гэтую іерархію, лепей, калі яна выстройваецца сама сабой, без пэўнага прымусу, хаця сцэна—жорсткая рэальнасць, і яна многае расстаўляе на свае месцы. Мы мусім дбаць пра прэстыж тэатра. Ёсць пэўны мінімум, які не дазваляе выпускаць на сцэну тых, хто пакуль не адпавядае патрэбнаму ўзроўню. У аматарскім тэатры такі прынцып цалкам рэалізаваць немагчыма, таму мы стараемся прайсці паміж Сцылаю і Харыбдай.

Безумоўна, кіраўніку трэба быць трошкі наперадзе, бо кіраўнік павінен бачыць стратэгічны накірунак развіцця і вызначаць тактыку, а для гэтага трэба мець шырэйшы кругагляд, прадбачанне праблемаў, якія могуць узнікнуць.

***— Праз школу вашага тэатра прайшло не мала студэнтаў. Хто яны цяпер? Ці паўплываў тэатр на іх жыццё?***

— Свята веру, што ніводзін з тых, хто прайшоў праз гэтае тэатральнае гарніла, праз тую атмасферу, рэпетыцыі, не кіне каменем у родную мову і літаратуру. Гэтыя людзі больш падрыхтаваныя да жыцця, загартаваныя: бо набылі ўменне трымацца на сцэне перад шматлікай аўдыторыяй, валодаць словам. Не прайшлі міма і сустрэчы з рознымі людзьмі. Для тых жа, хто настаўнічае, а іх большасць у тэатры, гэта аснова педагагічнай прафесіі.

***— Вядома, што ў тэатры два кіраўнікі — дзве творчыя асобы. Ці не лічыце вы, што гэта замнога для аматарскага тэатра?***

— Сапраўды, два кіраўнікі гэта зашмат. Калі б я і Алена мелі адпаведную адукацыю, напрыклад, рэжысёрскую і спрабавалі рэпетаваць адзін і той жа спектакль, — тады было б складана. А ў нашым выпадку—мы, дарэчы, пазнаёміліся з Аленай у тэатры, і сям'я наша склалася тут—і ўсё астатняе па жыцці мы робім разам, дапаўняючы адзін аднаго. Арганізацыйнымі справамі ў тэатры займаюся больш я. А творчы бок – падрыхтоўка сцэнару, спектакля – кладзецца на Алену. Першасны варыянт рыхтуе яна, а далей удваіх усё шліфуем. Важкі кавалак працы робяць у тэатры Алена Шац і Таццяна Рудакоўская — асістэнткі рэжысёра.

***— Ці ёсць у вашага тэатра свой творчы індывідуальны накірунак?***

— Калі думаю пра наш тэатр, першая асацыяцыя—гэта Дом. Хацелася б праз нейкі час так і назваць яго: тэатральны дом «Жывое слова». Ужо цяпер атмасфера ў нашым тэатры набліжаная да хатняй. Неабходна, каб з'явіліся пэўныя дамашнія рысы. Напрыклад, дома павінны быць дзеці. У нас мусіць хутка з'явіцца дзіцячая тэатральная студыя, дзе можна будзе займацца не толькі лiцэдзействам, але спасцігаць літаратуру, знаёміцца з гісторыяй Беларусі, беларускага тэатра. Плануецца адкрыццё студыі выяўленчага мастацтва. Наша мэта — каб дзеці, якія будуць сюды прыходзіць, паступова станавіліся ўдзельнікамі асноўнага калектыву.

***— Хутка не будзе такога месца на Беларусі, дзе б не былі з візітамі «жывасло ўцы». Што даюць тэатру такія вандроўкі?***

— Гэта тое, што перадалося нам у спадчыну. Штогод тэатр вандраваў і па Беларусі, і за яе межы. У прыватнасці, Віцебшчыну мы аб'ездзілі ўсю, пабывалі і ўсюды выступілі. Вандравалі па Навагрудчыне, Вілейшчыне. Былі і больш далёкія вандроўкі: на Беласточчыну ездзілі 7-8 гадоў запар. У мінулым годзе наведалі Кастраму, дзе праходзіў фестываль «Сярэбраная ладдзя». Для аматарскага тэатра адсутнасць вандровак небяспечная. Здольнасці актораў найперш развіваюцца ў гэтых вандроўках.

***— Ці задаволены вы сваёй працай?***

— Цяжка працаваць, калі ўвесь час незадаволены сабой. Хацелася, каб прыходзіла больш філолагаў-хлопцаў. І пэўне, фінансаванне, каб было рэгулярнае і стабільнае. Хацелася б, каб кожны з тэатральнай трупы станавіўся цікавым для сябе, а значыць, і для гледачоў.

**Ірына ТОЎСЦІК**

## У Гродне забаранілі «Дзядоў»

19 сакавіка праўленне гродзенскага аддзялення Беларускага саюза мастакоў (БСМ) большасцю галасоў прыняло рашэнне забараніць запланаваную на 23 сакавіка мастацкую выставу «Дзяды» мясцовага скульптара Юрася Мацко.

Забарону выставы ініцыявала дырэктар гродзенскай выставачнай залы Беларускага саюза мастакоў Ірына Працко. Сваю ініцыятыву яна абгрунтавала тым, што, на яе думку, экспазіцыя пагражае «грамадскаму парадку». Паводле яе словаў, забаронена выкарыстанне выставачных плошчаў для рэкламы і прапаганды палітычных ідэяў. «Гэта будзе нацыяналістычны шабаш, на выставе могуць пабіць шыбы, усе акцыі апазіцыі заўсёды перацтвараюцца ў скандал», — заявіла Ірына Працко на паседжанні праўлення гродзенскага аддзялення Беларускага саюза мастакоў.

На выставе мастак па метале Юрась Мацко мусіў прадставіць свае апошнія скульптуры. У якасці асноўнай кампазіцыі экспазіцыі былі задуманы трыпціх «Дзяды».

Юрась Мацко выказаў сваё абурэнне дзеяннямі Ірыны Працко і чальцоў праўлення аддзялення БСМ: «Я паўгода жыў гэтай выставай, такое рашэнне не магло прысніцца мне нават у кашмарным сне, яно, безумоўна, звязанае з маёй грамадзянскай пазіцыяй».

Забарона мастацкай выставы па такіх прычынах — другі выпадак за апошнія 10 гадоў. У 1991 годзе ў Гродне была забароненая выстава мастака Алеся Пушкіна.

**Павел МАЖЭЙКА, БелаПАН**

## У Оршы аднаўляюць уніяцтва

18 сакавіка ў аршанскім касцёле Святога Яэапа адбылася першая уніяцкая літургія. Адслужыў яе пробашч грэка-каталіцкай парафіі Святога Язэпа з Мінска айцец Андрэй.

Аршанскія вернікі, жадаючыя далучыцца да грэка-каталіцкай парафіі, не маюць свайго святара, свайго храма, няма нават у дастатковай колькасці малітоўнікаў. Але ўсё гэта не перашкаджае жаданню адрадзіць у родным горадзе уніяцкую царкву. З гэтага часу адзін раз на месяц айцец Андрэй будзе прыязджаць у Оршу, каб праводзіць набажэнствы. Наступнае адбудзецца 4 красавіка. А цяпер аршанскія вернікі грэка-каталіцкай царквы шукаюць памяшканне пад храм і вядуць працу па рэгістрацыі сваёй парафіі ў дзяржаўных органах улады.

**Ірына МАРЫСКІНА, БелаПАН**

## Бюджэтная падтрымка царкве

Урад Беларусі зацвердзіў праграму рэканструкцыі Жыровіцкага манастыра — помніка архітэктуры XVII-XIX стагоддзяў. На яго тэрыторыі знаходзіцца будынкі духоўнай акадэміі і семінарыі. Рэалізацыя і фінансаванне праграмы разлічаныя на 10 гадоў. Па рашэнні Савета міністраў РБ, Гродзенскі аблвыканкам, міністэрствы эканомікі, фінансаў, архітэктуры і будаўніцтва, Камітэт па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў пры міністэрстве культуры павінны штогод закладаць у праекты бюджэтаў фінансаванне праграмы. Распрацавала гэтую праграму рэканструкцыі міністэрства архітэктуры і будаўніцтва па ініцыятыве мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта. Галоўнае абгрунтаванне, відаць, складае наяўнасць у манастыры цудатворнага абраза Жыровіцкай Божай Маці, да якога прыходзіць шмат паломнікаў і які можа быць аб'ектам турыстычнай увагі. Праграма прадугледжвае рэстаўрацыю Успенскага сабора, Багаяўленскай і Крыжаўзвіжанскай цэркваў, манастырскай званіцы, а таксама рэканструкцыю жылога корпуса, трапезнай, будаўніцтва тэхнічнага пункту, пякарні. Ужо сёлета на рэстаўрацыю Жыровіцкага манастыра будзе накіравана 90 мільёнаў рублёў бюджэтных грошай. Яны пойдуць на праектна-вышукальныя і рэстаўрацыйныя працы ва Успенскім саборы, уцяпленне яго зводу, трохслойнае ашкленне вокнаў.


Фота IREX/ProMedia

**Віктар ТУМАШ**

# От диктатуры к демократии

*Продолжение. Начало на стр.5*

Затем может последовать явное ослабление власти диктатуры. Со временем исчезновение источников силы может вызвать паралич и бессилие режима и, в серьезных случаях, его развал. Власть диктатуры, постепенно или быстро, исчезнет от политического истощения.

Из этого следует, что свободолюбие или тирания любого правительства в большой степени являются отражением решимости народа оставаться свободным и его желания и способности противостоять попыткам поработить его.

В противоположность распространенному мнению, даже тоталитарные диктатуры зависят от населения и общества, которым они правят. Как отметил политолог Карл В. Дойч в 1953 г.: «Тоталитарная власть сильна только тогда, когда ее не нужно слишком часто употреблять. Если тоталитарную власть приходится использовать постоянно против всего населения, она едва ли останется сильной в течение длительного времени. Поскольку тоталитарные режимы требуют больше власти для управления своими подданными, чем другие формы правления, таким режимам требуется более широкая и надежная привычка к подчинению среди людей; более того, им приходится при необходимости полагаться на активную поддержку, по крайней мере, значительной части населения».

Английский теоретик права девятнадцатого века Джон Остин описал положение диктатуры перед лицом разочарованного народа. Остин утверждал, что если большинство населения полно решимости ликвидировать правительство и для этого готово терпеть репрессии, тогда мощь правительства, включая тех, кто его поддерживает, не спасет ненавистное правительство, даже при иностранной поддержке. Остин заключает, что борющийся народ невозможно вернуть к постоянному подчинению и покорности.

Никколо Макиавелли еще ранее утверждал, что правитель, «...для которого все общество является врагом, не может чувствовать себя в безопасности; чем шире жестокость, тем слабее становится его режим».

Политическое применение на практике данных положений продемонстрировано героическими борцами сопротивления в Норвегии против нацистской оккупации и, как упоминалось в главе 1, мужественными поляками, немцами, чехами, словаками и многими другими, которые оказали сопротивление коммунистической агрессии и диктатуре и в конце концов способствовали крушению коммунистического правления в Европе. Это, конечно, не новое явление: случаи ненасильственного сопротивления известны еще примерно с 494 г. д.н.э., когда плебеи лишили своей поддержки своих римских хозяев-патрициев. Ненасильственная борьба применялась в различные эпохи народами не только Европы, но и Азии, Африки, обеих Америк, Австралазии и островов Тихого океана.

Таким образом, три важнейших фактора, определяющие, до какой степени власть правительства будет контролироваться или оставаться бесконтрольной, включают: (1) относительное стремление населения устанавливать границы власти правительства; (2) сравнительная способность независимых организаций и институтов подданных коллективно перекрывать источники силы; (3) относительная способность населения отказывать в согласии и поддержке.

### Центры демократической власти

Одной из характеристик демократического общества является существование множества неправительственных групп и институтов, независимых от государства. Например, сюда входят семьи, религиозные организации, культурные ассоциации, спортивные клубы, экономические институты, профсоюзы, ассоциации студентов, политические партии, деревни, ассоциации по месту жительства, кружки садоводов, правозащитные организации, музыкальные группы, литературные общества и др. Такие органы важны преследованием собственных целей, а также помощью в достижении социальных целей.

Кроме того, данные органы имеют большое политическое значение. Они обеспечивают групповую и институциональную основу, с помощью которой люди могут оказывать влияние на управление обществом или препятствовать другим группам или правительству, когда те несправедливо ущемляют их интересы, препятствуют деятельности или достижению целей. Отдельные лица, не являющиеся членами таких групп, обычно не могут оказать значительное влияние на остальную часть общества, не говоря уже о правительстве и, конечно же, о диктатуре.

Соответственно, если автономия и свобода таких органов отбирается диктатурой, население становится сравнительно беспомощным. Кроме того, если подобные институты сами могут находиться под диктаторским контролем центрального режима или заменяться новыми подконтрольными организациями, их можно использовать для господства как над отдельными членами, так и над слоями общества.

Однако если можно сохранить или возвратить автономию и свободу таких независимых гражданских институтов (от контроля правительства), они становятся весьма важными для применения политического неповиновения. Общей чертой приведенных примеров разрушения или ослабления диктатуры является решительное массовое применение политического неповиновения со стороны населения и его институтов.

Как говорилось выше, данные центры силы обеспечивают институциональную основу, с помощью которой население может оказывать давление или сопротивление диктаторскому правлению. В будущем они станут частью важнейшей структурной основы свободного общества. Таким образом, сохранение их независимости и развитие часто является обязательным условием успеха освободительной борьбы.

Если же диктатура с успехом разрушила или поставила под контроль независимые органы общества, важно, чтобы борцы создали новые независимые социальные группы и институты или вернули демократическое управление оставшимися или частично контролируемыми органами. Во время венгерской революции 1956-1957 гг. возникло множество истинно демократических советов, которые даже объединялись друг с другом, образовав на несколько недель целую объединенную систему институтов и органов самоуправления. В Польше в конце 1980 г. рабочие создали подпольные профсоюзы Солидарность и в некоторых случаях брали под контроль официальные профсоюзы, находящиеся под коммунистическим управлением. Такие институциональные изменения могут иметь весьма важные политические последствия.

Естественно, сказанное не означает, что ослабление и разрушение диктатуры — легкая задача, или что каждая попытка увенчается успехом. Конечно, это не означает, что борьба не приведет к жертвам, так как служители диктаторов будут давать отпор в попытке заставить население возобновить сотрудничество и послушание.

Однако приведенный выше анализ власти означает, что преднамеренное разрушение диктатуры возможно. Диктатура обладает характерными особенностями, которые делают ее весьма чувствительной к умело применяемому политическому неповиновению.

*Продолжение следует*

# 77 адсоткаў еўрапейцаў задаволеныя жыццём

У Еўрапейскім Саюзе ёсць статыстычны паказчык — колькасць бедных у працэнтных адносінах да агульнага насельніцтва. Да катэгорыі бедных еўрапейцаў адносяць тых людзей, чые даходы на 60 адсоткаў меншыя за сярэднястатыстычныя. Як даводзіць апублікаваная ў Бруселі справаздача Статыстычнага ўпраўлення ЕС («Еўрастат»), па гэтым паказчыку лідзіруе Партугалія. Тут гэты паказчык складае 22%. Услед ідуць Грэцыя – 21%, Вялікабрытанія і Італія – па 19%, Іспанія і Ірландыя – па 18% бедных. У Германіі бедных па еўрапейскіх паняццях 13%, у Нідэрландах і Люксембургу — па 12%, у Даніі — усяго 11%. (Варта зазначыць, што па такіх еўрапейскіх мерках у нас неабходна лічыць беднымі 95% насельніцтва, што, дарэчы, адпавядае рэальнаму становішчу.) На долю бяднейшага насельніцтва ЕС выпадае 7,6% усіх даходаў Саюза, а на долю найбольш забяспечаных людзей – 39,3%. У Швецыі і Даніі гэтая розніца меншая. Сярэдняя працягласць жыцця складае ў краінах Еўрапейскага Саюза 74 гады для жанчын і 69 — для мужчын.

Па ўзроўні нараджальнасці апошняе месца сярод 15 краінаў ЕС займае Іспанія – менш 1,2 дзіцяці на кожную жанчыну ў дзетародным узросце. Самы высокі ўзровень нараджальнасці мае Ірландыя.

Згодна з апытаннем насельніцтва, 77% еўрапейцаў у цяперашні час задаволеныя ўмовамі свайго жыцця, самая вялікая колькасць задаволеных складаюць шведы, датчане і галандцы.

# Пуцін узмацніў сваю ахову



Як паведаміла газета *Sunday Times*, у Маскве ўзмацнілася ахова прэзідэнта Пуціна. Расійскія спецслужбы баяцца, што пасля захопу расійскага самалёта ў Турцыі чачэнскія баевікі паспрабуюць арганізаваць замах на прэзідэнта. Пуціна будзе ахоўваць большая колькасць целаахоўнікаў. Большыя меры бяспекі будуць прымацца ў часе паездак Пуціна па краіне. *Sunday Times* пераказвае меркаванне ваеннага эксперта І.Каротчанкі, які заявіў, што Пуціна і без гэтага ахоўваюць больш сур'ёзна, чым ахоўвалі Ельцына. Целаахоўнікі, якія суправаджалі картэж Ельцына, былі ўзброеныя аўтаматычнай стралковай зброяй, а ў арсенале аховы Пуціна ёсць нават гранатамёты.

**Вітак ТУМАШ**

СПОРТ

# Апошні біятлон у гэтым сезоне

Зіма саступіла нарэшце сваё месца лету. Прынамсі ў спорце. Апошнія біятлонныя гонкі зімовага сезону прайшлі мінулымі выхаднымі ў фінскім мястэчку Халменколен. І якраз на іх разгарнулася галоўная інтрыгуючая барацьба за Кубак свету. Усе з нецярпеннем чакалі, ці ж здолее нарвежац Оле-Эйнар Б'ёрндален, які апошнім часам выйграваў амаль усё, зрабіць не тое, што яшчэ два месяцы таму здавалася немагчымым — дагнаць лідэра па ачках у агульным заліку француза Рафаэля Пуарэ. І, трэба сказаць, нарвежац быў блізкі да дасягнення мэты.

Спачатку прайшоў спрынт, у якім Б'ёрндален заняў другое месца, а Пуарэ не было ў ліку трыццаці лепшых. І ў выніку разрыў скараціўся да мінімуму. У гонцы пераследу Б'ёрндален зноў другі (!), а Пуарэ здолеў пераб-рацца толькі на шаснаццатае месца. І лідэрам стаў нарвежац! І якая напруга вісела па-над трасаю Халменколена падчас гонак у масавым старце! Дзякуючы больш трапнай стральбе Пуарэ займае ў гонцы другое месца, а Б'ёрндален — толькі чацвёртае, і Пуарэ завяршае сезон уладальнікам Кубка свету, а нарвежцу застаецца толькі грызці пазногці.

Беларускія мужчыны былі дастойна прадстаўленыя ў эліце толькі Вадзімам Сашурыным, які ў масавым старце на 15 кіламетраў заняў шостае месца, а ў гонцы пераследу — дзесятае. Месца Алега Рыжанкова ў дваццатцы – не ў разлік, бо не дасягненне гэта для беларускага мужчынскага біятлону. Астатнія спартсмены яшчэ горш. А па выніках сезона Сашурын – адзінаццаты біятланіст свету (калі ўлічыць ягоную хваробу – то гэта нармальнае выступленне), Алег Рыжанкоў – дваццаты, Аляксей Айдараў – сорак першы.

Затое напрыканцы сезона парадавала Вольга Назарава, якой толькі нейкае нешанцаванне не дало магчымасці трапіць у тройку-пяцёрку лепшых і падчас спрынту, і падчас гонкі пераследу. Затое цяпер мы ведаем, што ў будучым сезоне беларускай біятлоннай прымай будзе не Святлана Парамыгіна, а маладая Вольга Назарава. І на яе ўсе нашыя спадзяванні. Проста больш няма нікога...

А Кубак свету ў жанчын прадказальна выйграла шведка Магдалена Форсберг.

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

# Штангісты збяруцца на Гуаме

Невялічкая выспа Гуам, што ў Ціхім акіяне, хутчэй за ўсё прыме з 4 па 13 кастрычніка чэмпіянат свету па цяжкай атлетыцы. Улады краіны Наўру (краіна, дзе раней мусіў праходзіць чэмпіянат свету) адмовіліся ад яго правядзення па прычыне... немагчымасці размясціць у сябе на радзіме ўсіх гасцей. Канчатковае рашэнне на гэты конт прыме Міжнародная федэрацыя цяжкай атлетыкі, аднак найбольшыя шанцы на правядзенне сусветнага форуму штангістаў мае ўсё ж такі Гуам. А гэта значыць, што беларускіх спартсменаў чакае нялёгкі і нятанны шлях у далечы Ціхага акіяна.

**Аляксей СТАЎСКІ**

# Анатомия страха

**Йозеф Е. ЛЕ ДУ,**
**профессор психологии, университет Нью-Йорка**

*Сердцевина системы страха мозга обнаружена в области, называемой «амигдала». Она получает информацию от всех органов чувств и в свою очередь контролирует разнообразные цепочки, которые вызывают усиление сердцебиения, потение ладоней, напряжение мышц и гормональные выбросы, которые характеризуют «состояние боязни».*



Амигдала крысы отвечает на естественные природные опасности (крысы боятся котов без специального обучения этому) и учится новым опасностям (звукам, знакам и запахам, которые появляются в присутствии котов и других угроз). Посредством изучения способов, с помощью которых мозг запоминает эти раздражители, такие как звуки, предшествующие опасности, наша система изучения страха и памяти в целом объяснялась на основе исследования крыс.

Существуют данные, что амигдала рептилий и птиц имеет подобные функции. Изучение людей с нарушениями амигдалы по причине неврологических заболеваний или как последствие хирургического вмешательства для предотвращения эпилепсии показывает, что наш мозг также работает по подобной основной схеме. Смысл открытий состоит в том, что с ранних времен эволюция воздействовала на способ побуждения мозга для выработки реакций, которые, возможно, позволяли организму выжить в опасной ситуации. Решение было настолько эффективным, что не изменилось сколько-нибудь значительно в течение многих веков.

Очевидно, что это еще не вся история. Поскольку система страха обнаруживает опасность и начинает на нее реагировать, человеческий мозг, с его огромными возможностями к умственной деятельности, анализу и осмыслению, начинает оценивать, что происходит, и пытается определить, что следует делать. Это происходит, когда появляется чувство страха. Но для того, чтобы испугаться сознательно, необходимо иметь достаточно сложный тип мозга, который сам осознает свою деятельность.

В эволюционном смысле система страха мозга очень стара. Похоже, что она была создана еще до того, как мозг стал способен переживать чувство, которое люди называют «страхом» в своих собственных жизнях. Если это действительно так, то наилучшим способом понять, как работает система страха, будет не отслеживание неуловимых механизмов мозга для ощущения страха, а изучение лежащей в основе нервной системы, которая развилась как поведенческое решение проблем выживания. Чтобы понять чувства, нам нужно отступить от их поверхностных выражений в наших переживаниях сознания и глубже исследовать, как работает мозг, когда у нас возникают такие переживания.

Основополагающим стало обнаружение того, что мозг имеет многочисленные системы памяти, предназначенные для различных видов его функций. Для памяти об опыте переживаний, вызывающих страх, особенно значимы две системы. Рассмотрим пример: память возвращает вас к сцене недавнего опасного инцидента. Вы, вероятно, ощутите прежнюю физическую реакцию, которая отражает активацию воспоминаний, сохраненных в амигдале. В то же время вы будете помнить, куда вы направлялись, с кем вы были и прочие детали. Это явные (сознательные) воспоминания, предоставленные другой системой, «гиппокампусом».

В отличие от них, воспоминания, возникающие из амигдалы, бессознательные. Это воспоминания в том смысле, что они побуждают ваш организм реагировать определенным образом как результат прошлого опыта. Таким образом, сознательная память о прошлом опыте и извлеченная физиологическая реакция отражают работу двух раздельных систем памяти, которые действуют параллельно. Только благодаря тому, что эти системы рассматривались отдельно, ученые-неврологи смогли выяснить, что это скорее различные системы памяти, чем одна память с множеством форм проявления.

Многие из наиболее распространенных психиатрических нарушений, которые причиняют людям страдание, являются эмоциональными расстройствами; многие из них имеют отношение к системе страха мозга. Согласно данным Американской Службы общественного здоровья, около 50% психических заболеваний, зафиксированных в Соединенных Штатах (отличающихся от тех, которые имеют отношение к злоупотреблению веществами), включают фобии, приступы паники, посттравматические стрессовые нарушения, навязчивые принудительные отклонения и тревожность в общем смысле.

Исследование механизмов страха мозга помогает понять, почему так сложно контролировать эмоциональные условия. Невроанатомисты показали, что проводники, соединяющие амигдалу с думающим мозгом, неокортексом, не являются симметричными — соединение, идущее от кортекса к амигдале, существенно короче, чем соединение, идущее от амигдалы к кортексу.

Это, возможно, объясняет, почему при возникновении эмоции так сложно «прекратить» ее усилием воли. Асимметричность этих соединений также помогает нам понять, почему психотерапия зачастую такой сложный и длительный процесс, ведь он полагается на несовершенные каналы коммуникации между системами мозга, участвующими в познании и эмоциональной деятельности.

Скорее всего, исследования фундаментальной биологии систем страха продолжатся с целью обнаружения важной информации о том, откуда происходят наши эмоции, и о том, что нарушается в эмоциональных отклонениях. Если мы лучше это изучим, мы сможем выяснять, как лучше лечить и предотвращать множество болезней, вызываемых страхами.



# Канец «Міра» займее назіральнікаў

Расійская арбітальная станцыя «Мір» пасля таго, як згарыць асноўнай масай у вышэйшых слаях атмасферы, рэшткамі – а гэта болей за тысячу фрагментаў агульнай вагой 20 тон – упадзе ў Ціхі акіян.



Паглядзець, як гэтая тысяча абломкаў знікае ў акіяне, будзе магчыма ў інтэрнэце ўжо праз чатыры гадзіны пасля іх сутыкнення з паверхняй вады. Здымкі гістарычнага спуску касмічнай станцыі, якая адслужыла 15 гадоў, будуць весціся з пасажырскага самалёта, зафрахтаванага амерыканскім прадпрымальнікам Рычардам Сітронам. Пры фінансавай падтрымцы кампаніяў «Радыё шэк» і «Амерыка он лайн» гэты бізнесмен наняў авіялайнер, які будзе ляцець паралельна траекторыі зніжэння «Міра». «Калі я пачаў распрацоўваць праект, — апавёў журналістам Рычард Сітрон, я быў моцна здзіўлены, што ніхто ў свеце не плануе сачыць за вяртаннем станцыі, а гэта ж бяспрэчна стане самай уражлівай падзеяй з часу падзення Тунгускага метэарыта на Зямлю ў 1908 годзе».

Кошт білета на самалёт, з якога будуць назіраць унікальную з'яву, вагаецца ад 5 да 10 тысяч доляраў у залежнасці ад месца. Агульная колькасць вучоных і проста цікаўных на борце складзе 120 чалавек.

Спонсары мерапрыемства напачатку хацелі даваць у эфір прамую тэлетрансляцыю падзення касмічнай станцыі, аднак высветлілася, што такая трансляцыя немагчыма па тэхнічных прычынах. Самалёт будуць аддзяляць ад станцыі пры яе зніжэнні 400 міляў. А шанцы ўбачыць што-небудзь з зямной паверхні зусім мізэрныя. Самалёт, згодна з разлікамі, прызямліцца праз дзве гадзіны пасля падзення «Міра», і яшчэ дзве гадзіны спатрэбіцца для падрыхтоўкі адзнятага матэрыялу да публікацыі.

Апроч гэтага самалёта, на якім будуць людзі навукі і апаратары, у паветры над паўднёвай часткай Ціхага акіяна з'явіцца і другі самалёт з 50 пасажырамі, якія таксама жадаюць асабіста назіраць унікальнае відовішча падзення касмічнай станцыі ў акіян. Самалёт арандавала каліфарнійская кампанія па сувязях з грамадскасцю «Херынг Мідыа груп».

З людзей, якім хочацца быць непасрэднымі гледачамі фантастычнай карціны, арганізатары палёту бяруць па 6,5 тысяч доляраў. Плата за авіябілет для аматараў вострых пачуццяў уключае таксама кароткі прыпынак на астравах Фіджы і пачастунак. На борце самалёта будуць таксама чацвёра запрошаных расійскіх касманаўтаў, якім даводзілася працаваць на «Міры».

Марк Херынг, кіраўнік кампаніі, якая арганізуе гэты незвычайны палёт, падкрэсліў у сувязі з магчымасцю патрапіць пад град абломкаў «Міра», што «мы не наблізімся да небяспечнай зоны бліжэй за 200 міляў». Да таго ж усе перамяшчэнні ў паветранай прасторы гэты самалёт будзе каардынаваць з расійскай місіяй кантролю за патапленнем «Міра». Трэба спадзявацца, што так і будзе. Ва ўсялякім разе ўдзельнікам гэтага паветранага падарожжа можна шчыра пазайздросціць.

**Аліна ВОЛЬСКАЯ**

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1691 Нумар падпісаны ў друк 20/03/2001 (15:00) Наклад – 9.550